Поспехі арлянскіх школьнікаў →3




# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Соль Гарадоцкай зямлі → 8



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 24 (2926) Год LVII | Беласток, 10 чэрвеня 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# „Каліне" - 35 гадоў!

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Калектыў арганізаваўся ў 1977 годзе. Першыя два гады Валянціна Міцэвіч і Сафія Кердалевіч выступалі ў дуэце. Пасля далучыліся Вольга Селlibmановіч, Марыя Такаюк, Ядвіга Пташыньская-Ожэл, Надзея Рошчанка, Марыя Маркевіч, Марыя Пякуцін, Еўдакія Маркевіч, Яўгенія Андрусевіч, Валянціна Дуда, Славамір Місяюк, Віктар Леанкевіч, Міхал Насковіч ды Мірослаў Слівінскі. Кіраўніком калектыву была Валянціна Міцэвіч. „Хрысціны" адзначылі на 15-годдзе. Бацькамі хроснымі былі Ніна Пятэльская і Аляксандр Сяліцкі. Калектыву прысвоілі назву „Каліна".

З ходам гадоў многае перамянілася. Адышла Валянціна Міцэвіч. Па розных прычынах развіталіся з калектывам іншыя. Абавязкі кіраўніка пераняла Сафія Кердалевіч. Лік членаў „Каліны" паменшыўся да шасці чалавек. У гэтых апошніх засталася адна супольная рыса: любоў да песні. Вернымі сейбітамі народнай культуры і традыцыі засталіся Сафія Кердалевіч, Ніна Міцэвіч, Марыя Рошчанка, Еўдакія Маркевіч, Надзея Рошчанка і Валянціна Дуда. Гэта яны зараз удастоіліся звання юбіляраў і ў іх гонар арганізавалася мерапрыемства...

Нядзеля, 27 траўня. У Дашах рух. Калектыў „Каліна" адзначае юбілей 35-годдзя. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі бурмістр Кляшчэляў, Гарадскі асяродак спорту і адпачынку „Гладышка" ды Галоўнае праўленне БГКТ. На пляцоўцы побач святліцы сабралася некалькі дзесяткаў чалавек. Адны займалі месцы на лаўках перад сцэнай, іншыя стаялі. Імпрэза пачалася з выступлення дырэктара Гарадскога асяродка спорту і адпачынку Лявона Алексеюка, які прывітаў гасцей, у тым ліку старшыню Галоўнага праўлення БГКТ Яна Сычэўскага, сакратара ГП БГКТ Валянціну Ласкевіч, павятовага раднага Яраслава Герасімюка, бурмістра Кляшчэляў Ірэну Негярэвіч, настаяцеля Праваслаўнага прыхода ў Мілейчычах Яна Куліка, радных і солтысаў Кляшчэлеўскай гміны ды прыбыўшыя на святочны юбілей мастацкія калектывы.

Канцэрт пачаўся з выступу „Каліны". Гаспадары выканалі песні „Ой там у полі" і „Каля саду каліна", затым паказалі гумарыстычную сцэнку „Куры". Варта адзначыць, што аўтарам гумарэскі з'яўляецца светлай памяці Янка Крупа, які перадаў яе дашоўскім самадзейнікам у пачатках заснавання калектыву. Гэтыя па сённяшні дзень захоўваюць гумарэску ў сваім рэпертуары. У ролі сварлівых суседак выступілі Сафія Кердалевіч і Надзея Рошчанка. Публіка ўзнагародзіла самадзейніц бурнымі апладысментамі. Пасля выступілі „Мікстуркі". Дзеткі пад кіраўніцтвам Ігара Фіты выканалі дзве беларускія песні: „Абяцанні" і „Ляціце мае крылы". Прыгожа запрэзентавалася трыо з Дабрывады — Ніна Яўдасюк, Валянціна Клімовіч і Барбара Якімюк. Пявунні выканалі агульку і дзве фальклорныя песні. Затым выступілі „Чыжавяне" — лаўрэат павятовага конкурсу „Беларуская песня-2011". Перад публікай выступілі з народнымі гітамі. Майстэрскае выкананне, выдатны рэпертуар былі сардэчна ўспрыняты гледачамі. Сведчылі аб гэтым бурныя воплескі, якімі прысутныя абдароўвалі выканаўцаў пасля кожнага нумара праграмы.

Атракцыёнам фэсту аказаўся канцэрт „Церніцы". Калектыў з шаснаццаці асоб прыехаў з Мінска. У суботу канцэртаваў на фэсце ў Дуброве-Беластоцкай. Галоўнае праўленне БГКТ запрасіла гасцей на юбілейныя святкаванні „Каліны". Гурт пад кіраўніцтвам Галіны і Іосіфа Несцяровічаў запрэзентаваўся незвычайна. Шыкарныя ўборы, звонкія галасы дзячат і лірычная музыка гармоніка заваражылі публіку. Некалькі разоў артысты сыходзілі са сцэны і запрашалі гледачоў у карагод. У час канцэрта прадаваліся іх кампакт-дыскі.



Узнагароджаныя юбіляркі

Пасля выступу „Церніцы" голас узяла бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч:

— Без Валянціны Міцэвіч і Сафіі Кердалевіч, — сказала бурмістр, — не было б сённяшняй імпрэзы. Дзякуючы калектыву захоўваюцца даўнейшыя песні і абрады. „Каліна" стала вядомай на Падляшшы. Выступала на Ваяводскіх дажынках у Дуброве-Беластоцкай. Гасцявала ў Вэнгажэве і Казімежы над Віслай, дзе прэзентавала абрад вясельнага каравая. І заўжды прывозіла прызы. У мінулым годзе заваявала другое месца (за „Чыжавянамі") на павятовым аглядзе фестывалю „Беларуская песня". Шчырае дзякуй самадзейніцам за гэта!



„Чыжавяне" з найлепшымі пажаданнямі

Мастацкую частку завяршыў гурт „Ас", які выканаў папулярныя гіты беларускай эстрады. У палове канцэрта вядучы выклікаў на сцэну „Каліну". Бурмістр Ірэна Негярэвіч, віншуючы калектыў з узнагародай, сказала:

— Прыміце, паважаныя юбіляркі, букеты кветак і падарункі ў знак прызнання. Ад свайго імя, а таксама ад імя Рады горада і Гміны Кляшчэлі жадаю Вам моцнага здароўя, шмат цёплых і сонечных дзён у штодзённым жыцці ды плённых поспехаў на ніве культурнай дзейнасці.

Адмысловы торт ад Салэцкай рады перадаў солтыс Уладзімір Андрусевіч. Затым паступілі віншаванні ад Галоўнага праўлення БГКТ, калектыву „Чыжавяне", вакальнай групы з Дабрывады, кіраўнікоў беларускага ансамбля „Церніца" ды ад жыхара Кляшчэляў Міхала Артышэвіча. Пасля гурт „Ас" выступіў ініцыятарам праспяваць юбілярам „Многае лета". На тым закончылася мастацкая частка, а арганізатары аб'явілі кароткі перапынак.

Госці падаліся на пачастунак. Быў арганізаваны „шведскі стол". Смакавітыя стравы падрыхтавала кляшчэлеўская карчма „У Валентага". У зале адчувалася сардэчная, сяброўская атмасфера. Падымаліся тосты, несліся песні. Запявалам выступіла мясцовая радная Таіса Барысюк. Падтрымалі яе прысутныя госці. Варта адзначыць, што спонсарамі мерапрыемства былі фірма „Скальняк", прадуктовая крама Галены і Сцяпана Вішанкаў у Дашах ды карчма „У Валентага".

Пакідаў я кампанію поўны ўражанняў перад шостай на адвячорку. Гурт „Ас" рыхтаваўся падыгрываць да танцаў, якія працягнуліся да поўначы.

9 770546 196000



# Наш адказ Чэмберлену

Для звычайнага беларускага тэлегледача так і засталося незразумелым, чаго Пуцін у Беларусь прылятаў. Чаму ён спазніўся, парушыўшы тым самым нейкія пратаколы сустрэчы, людзі ўспрынялі з гумарам і аддалі належнае расійскаму кіраўніку. Не першы раз Уладзімір Уладзіміравіч спазняецца. Што ён гэтым хоча паказаць, словамі вытлумачыць немажліва, але нейкім унутраным адчуваннем людзі разумеюць такія паводзіны. Пытанне ў іншым: якую карысць з гэтага мае сам расійскі лідар?

Вось, да прыкладу, на саміт вялікай васьмёркі ён увогуле не патрапіў. Адправіў туды цяперашні прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін былога прэзідэнта Расіі Дзмітрыя Мядзведзева. Ну дык тыя кіраўнікі сямі найбольш магутных дэмакратычных эканомік нават не пакрыўдзіліся, або зрабілі выгляд, што не крыўдуюць. Прынялі яны Мядзведзева як роўню. Толькі пасля саміту кошты на нафту катастрафічна для Расіі папаўзлі ўніз. А краіны-вытворцы нафты, нібыта згаварыўшыся, пачалі рэзка павялічваць аб'ёмы здабычы. Усе, акрамя Расіі, таму што нафтавыя шалёныя грошы, што Расія зарабляла за апошнія гады, ішлі не на мадыфікацыю расійскіх нафтавых і іншых тэхналогій, а на мадэрнізацыю войска і на ўтрыманне аўтарытарных рэжымаў па ўсім свеце. Зараз, каб спыніць працэс падзення коштаў на нафту, расійскаму начальніку прыйдзецца паасобку дамаўляцца з тымі з саміту. Вось і лічыце, наколькі часу спазніўся туды Пуцін і што ён ад гэтага выйграў.

Але вернемся да візіту ў Беларусь. Як і спазненне, так і далейшыя дзеянні расійскага кіраўніка не здзівілі беларускую грамадскасць, і нават не рассмяшылі. Былы прэм'ер-міністр ажно цэлай Расіі пахваліў беларускую эканоміку. Сказаў, што яна на правільным шляху і нават агучыў нейкія лічбы, якія рэзка выраслі ў параўнанні з ранейшым. Ну і паабяцаў для гэтай бліскучай эканомікі фінансавую падтрымку з антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС, каб такая ўдалая эканамічная мадэль, якая існуе ў Беларусі, не ляснулася канчаткова. Папраўдзе кажучы, гэта ўжо нават не смешна.

Вельмі шмат было нададзена ўвагі і самым Пуціным, і прымаючым беларускім бокам, і беларускімі тэлевядучымі таму факту, што расійскі прэзідэнт першую замежную паездку робіць менавіта ў Беларусь. Падавалася гэта як такая ласка, што невядома было як сябе паводзіць. Ці ў ногі пакланіцца расійскаму начальніку за такое нечаканае шчасце, ці ў руку яго пацалаваць прама праз шкло блакітнага экрана тэлевізара „Гарызонт”, які вырабляецца ў Беларусі, а назву мае рускую.

Асаблівая ўвага надавалася ўзаемаадносінам паміж нашымі краінамі. Кіраўнікі гэтых краін паставілі самі сабе вышэйшыя балы за ўжо зробленую працу ў гэтым кірунку, і вырашылі не спыняцца на дасягнутым, а крочыць далей са стабільным паскарэннем. Зрэшты, да інтэграцыйных працэсаў запрасілі далучацца і іншых сяброў па былым савецкім мінулым. Як найбольш чаканыя называліся Казахстан ды Украіна. Дзверы, маўляў, ні для каго не зачынены. Увайсці можа кожны. Як у пастку на мядзведзя. Выйсці, праўда, адтуль ужо цяжкавата, але пытанні выхаду не абмяркоўваліся. Маўляў, якому ж дурню захочацца выходзіць з такога зямнога раю.

Не пакінулі без увагі, як гэта ахрысцілі вострыя языкі, і „наш адказ Чэмберлену”. Беларусь цяпер з Расіяй разам будзе адстойваць свае правы на міжнароднай арэне. Асабліва ў эканоміцы. І вялікая Расія не пацерпіць аніякіх санкцый, якія накладваюцца дэмакратычным светам на суб'екты адзінай мытнай прасторы. Цікава, як на гэта адрэагуюць найбольш моцныя дэмакратычныя эканомікі свету?

А напрыканцы было аб'яўлена пра поўнае ўзаемапаразуменне расійскага і беларускага бакоў. Зрэшты, нічога новага. А калі гэта было па-іншаму? Заўсёды гэтым „поўным узаемапаразуменнем” заканчваліся ўсе сустрэчы. Таму, ніякай інтрыгі, акрамя таго які адказ дасць Пуціну „Чэмберлен”, і не адбылося. Усё як і было, так і засталося. І чаго прылятаў сюды расійскі начальнік засталося незразумелым. Няўжо выключна для таго, каб даць сумесны „наш адказ Чэмберлену”.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Дзе ёсць Беларусь?

Вестка, што гродзенскія асветныя ўлады хочуць увесці ў школу № 36 з польскай мовай навучання ў Гродне два рускамоўныя класы, мала кранула беларусаў. Затое раздражніла польскае МЗС, якое ў даволі вострых словах прыгадала, што пабудову гэтай школы поўнасцю прафінансаваў польскі бок, а адпаведныя пагадненні, падпісаныя з Беларуссю, гарантавалі ёй поўную польскамоўнасць. Таксама бацькі дзяцей, якія вучацца ў гэтай школьнай установе, выказалі рашучы супраціў гэтым паганым планам. Тлумачэнні асветных улад, што гэта адзіны спосаб, каб зняць цяжкасці з перапоўненай рускамоўнай школы № 27 з таго ж пасёлка, можна палічыць прагматычнымі. Толькі што гэта перш за ўсё крывадушнасць, таму што справа не ў рацыяналізацыі люднасці асветных устаноў, а ў спробе надкрышэння аўтаноміі школы, якая абапірае сваю адукацыйную праграму на родную мову вучняў, якія ў ёй вучацца. На жаль, крывадушнасць беларускіх асветных улад санкцыянуецца найвышэйшай вагай беларускага прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка, у якога спыталіся ў час мінулагодняй канферэнцыі наконт захоўвання беларускай мовы, чаму не адказвае ён на гэтай мове, выказаўся... па-руску, што „людзі, якія карыстаюцца аўтарытэтам і павагай ды паспяховыя павінны даць прыклад” (гаварыўшы па-беларуску — М. Г.). Ну вось — прыклад!

Скажу так: Макіявелі гэта малы „пікусь” пры Лукашэнку. Гэты русафіл, ці можа лепш саветафіл, уявіў сабе, што беларуская культура і мова гэта марныя парасткі вялікарускай стыхіі, якія трэба бязлітасна высякаць секатарам дзяржаўных законаў і распараджэнняў. І так пачаў абезгалоўліваць Беларусь — пазбавіў ейны сцяг традыцыйных колераў, адабраў гонар старадаўняму гербу беларускага народа і ўзяўся за беларускую мову. І так паслядоўна замыкае беларускую культуру ў акенцы тэлебачання, у якім можна будзе пабачыць справаздачы з фэсту народных песень. І гэта будзе канец...

У час апошняга перапісу насельніцтва роднай беларускую мову прызналі 53 працэнты насельніцтва Беларусі — на 20 адсоткаў менш чым у папярэднім перапісе. Апытанне, праведзенае па даручэнню незалежнага Саюза беларускіх пісьменнікаў паказала, што 13,3 прац. беларусаў увогуле не ўмее чытаць па-беларуску. Паводле мінулагодніх даных Радыё Свабода, з больш за тысячу зарэгістраваных у Беларусі газет і часопісаў толькі 80 паказваецца (яшчэ) на беларускай мове. У 2011 годзе выдалі ў гэтай краіне больш за 11 тысяч кніжак, у тым ліку толькі 940, значыць, 8,5 прац. — па-беларуску. У Беларусі не існуе ані адна беларускамоўная вышэйшая вучэльня. У дзяржаўных СМІ няма перадачы чыста па-беларуску. Замежныя фільмы агучваюцца выключна на рускай мове. Такая антыбеларуская палітыка давяла да таго, што на працягу апошніх дзесяці гадоў адсотак беларусаў, якія дэкларуюць штодзённае ўжыванне беларускай мовы дома скарацілася з 37% у 2000 годзе да 23% летась. Затое з даных рапарта ведамства адукацыі вынікае, што беларускамоўныя школы складаюць 52 прац. адукацыйных устаноў на сярэднім узроўні — налічваецца іх 1 782. Аднак той лік падае — у мінулым годзе стаў ён меншы на 2 працэнты.

Русіфікацыя Беларусі наступае ў страшэнным тэмпе. Таму ўмяшанне ў аўтаномію польскамоўнай школы ў Гродне, гарантаваную адпаведнымі міжурадавымі дамовамі, не так ударае ў польскую меншасць у Беларусі, як у самых беларусаў. Вызначэнне нацыянальнай тоеснасці асноўваецца ў вялікай ступені на моўнай спадчыне. Калі не захоўваецца і не дбаецца пра мову бацькоў, пытанне нацыянальнай тоеснасці становіцца пад драматычным пытаннем. Калі не абараняецца права нацыянальных меншасцей на родную мову, занікае таксама ахвота да захоўвання ўласнай. Адно ідзе за другім. Беларусы, пазбываючыся сваёй моўнай аўтаноміі, пагаджаюцца на атрафію ўласнай культуры. Як бачым па шматлікіх прыкладах, народ, які абязмовілі, зможа пратрываць, калі захоўвае ўласную культурную тоеснасць. А калі імі бяздумна грэбуе, дык дзе той народ?

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Маўчанне... радных



У час апошняй сесіі сейміка Падляшскага ваяводства, радныя мелі выслухаць інфармацыю аб стане бяспекі, м.інш. у абшары дзеянняў паліцыі ў мінулым годзе. І выслухалі. Падінспектар Адам Пэтэльскі, намеснік ваяводскага каменданта паліцыі (пашырыў выступленне на першыя сёлетнія месяцы) распавядаў аб падрытоўках у рэгіёне да чэмпіянату Еўропы па футболе „Еўра-2012”. Пачаў ён сваё выступленне не ад паказчыкаў, а хвальбой данымі, як гэта добра ацэньвае працу паліцыі падляшскае грамадства. Пасля ўспомніў пра змяншэнне ліку функцыянераў (каля 160 на працягу апошніх трох гадоў) і аб свабодных штатах, якімі распараджаецца Ваяводская камендатура (81), а перш за ўсё аб раскрывальнасці злачынстваў і правапарушэнняў (яно на ўзроўні 70 працэнтаў, што з'яўляецца паказчыкам большым чым у сярэднім у краіне).

— Публічныя пабоі нас таксама задавальняюць, — адзначыў падінспектар. — Найбольш балючыя для нас — прапаварушэнні адносна маёмасці.

Таксама рэакцыя паліцыі на здарэнні на Падляшшы — на думку намесніка ваяводскага каменданта — хуткая, бо ў сярэднім гэта шэсць хвілін, а ў краіне — 20-25.

Я з нецярплівасцю чакаў, калі намеснік каменданта хоць словам адазвецца аб выніках дзеянняў, якія зрабіла паліцыя ў справе больш дзесятка — як гэта звычайна называюць — інцыдэнтаў на нацыянальнай глебе, удараючых галоўным чынам у прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, да якіх дайшло летась і сёлета, уключна з апошнім такім здарэннем, якім было замаляванне польска-беларускіх указальнікаў у Арлянскай гміне. На жаль, падінспектар Пэтэльскі нават пра гэта не заікнуўся. Цікавей, што ў час раўнда пытанняў ні аднаго з радных гэтая справа не цікавіла, нават прадстаўнікоў меншасцей, у тым ліку сядзеўшага ў прэзідыуме віцэ-старшыні сейміка Яна Сычэўскага, а нават падляшскага віцэ-маршалка Валянціна Карыцкага. Таму пры нагодзе спытаўся я ў прысутнага на сесіі дэпутата Яраслава Зялінскага, віцэ-старшыні сеймавай камісіі ўнутраных спраў, а ў час кіравання ПіС віцэ-міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі, што ён думае пра поспехі паліцыі ў справе выкрывання віноўнікаў інцыдэнтаў на нацыянальнай глебе. Адказаў:

— Гэта нялёгкія і далікатныя справы, ды няма чаго хаваць таго, што паліцыя павінна быць больш эфектыўнай, бо мае ж на тое адпаведныя сілы і сродкі. Мала гэтага, павінна ў гэтых справах папрацаваць з іншымі службамі. Асабліва службай, якая павінна гэтым займацца, з'яўляецца Агенцтва ўнутранай бяспекі. Я як віцэ-міністр УСіА, падобныя злачынныя паводзіны кіраваў якраз у АУБ. З іх разведкі тады вынікала, што гэта вылазкі хутчэй на хуліганскай, чым ідэалагічнай аснове, ды я мяркую, што не былі гэта і не ёсць тлумачэнні адпаведныя з рэальнасцю. Калі, напрыклад, на працягу адной ночы адбываецца замаляванне некалькіх табліц на адмежаванай тэрыторыі, то я не магу прыняць тлумачэння, што гэта зрабілі па хуліганскіх матывах. Меркай спраўнасці дзяржавы з'яўляецца тое, каб тыя інцыдэнты высветліць і пакараць віноўнікаў. Калі гэта інцыдэнты ідэалагічнага характару, дык не трэба толькі пакараць, але неабходна супрацьдзейнічаць ім, таму што могуць яны распаўсюджвацца.

Тым часам падляшскі дэпутат Роберт Тышкевіч (ГП) накіраваў шэфу МУС Яцку Ціхоцкаму чатыры дэпутацкія запыты ў справе нявысветленых мінулагодніх і сёлетніх інцыдэнтаў. Пытаецца м.інш. пра вынікі прац спецыяльнай групы, створанай для нагляду над звязанымі з імі расследаваннямі, а таксама ці факт невыкрыцця віноўнікаў і непастаўлення абвінавачання знаходзяць абгрунтаванне ў вызначэннях праводжаных расследаванняў. Адказу міністра можна спадзявацца ў палове чэрвеня.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

*PS.* У момант высылкі гэтага нумара „Нівы” ў друк аказалася, што беластоцкая пракуратура адхіліла запыт на пакаранне віноўнікаў нацыяналістычных інцыдэнтаў у час мінулагодняга Маршу адзінства ў Беластоку.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Поспехі арлянскіх школьнікаў

Вучні Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове імя Арлянскай зямлі ў Орлі многа займаюцца на пазаўрочных занятках. Рэалізуюць яны разнародныя праекты, здымаюць фільмы, рыхтуюць радыёперадачы ды збіраюць матэрыялы для кніжных выданняў. Некаторым вучням спадабалася праца ў якасці журналіста. Запісалі яны ўжо каля 50 гадзін кінаматэрыялаў пра гісторыю і сучаснасць, у галоўным Арлянскай гміны. Свае фільмы высылалі на агульнапольскія конкурсы і займалі ў іх нават першыя месцы, перамагаючы сотні прац з іншых школ з усяе Польшчы. Беларускамоўныя перадачы арлянскіх гімназістаў можна слухаць на Радыё Рацыя. Вучні здабываюць прызавыя месцы на беларускамоўных конкурсах. Апошнім часам дзеткі трэцяга класа занялі першае месца на I Агульнапольскім конкурсе „Ратуем і вучымся ратаваць”, арганізаванага Вялікім аркестрам святочнай дапамогі Ежы Оўсяка. Арлянскія пераможцы атрымалі прыгожы кубак, дарагую мультымедыйную апаратуру для школы і майкі з аўтографам Ежы Оўсяка.



Лаўрэаты беларускамоўных конкурсаў, гімназісты-кінематаграфісты, іх апекуны і дырэктар школы Марыя Тамчук (першая справа). Побач яе настаўніца беларускай мовы Марыя Лемеш

## Перадачы для Радыё Рацыя

Наведваючы арлянскую школу, трапіў я на журналісцкія заняткі, якія вядзе там Наталля Герасімюк з Радыё Рацыя. Якраз гімназісты пад наглядам журналісткі рыхтаваліся збіраць матэрыялы для чарговай перадачы. Транслююцца яны ў эфіры Радыё Рацыя раз у месяц, па чацвяргах.

— Самай цікавай мы лічым нашую першую перадачу „Чаму кашалёўцы не любяць арлян, а арляне — кашалёўцаў?”. Зараз гэтае пытанне ўжо неактуальнае, але раней па-рознаму бывала. У перадачы мы змясцілі ўспаміны старэйшых жыхароў абедзвюх мясцовасцей, — заявіла Магдалена Пасечнік. — Рыхтуючы матэрыялы для перадач, сустракаемся з цікавымі людзьмі. Увесь час здабываем штораз то новы журналісцкі вопыт.

Арлянскія гімназісты рабілі перадачы, між іншым, пра зацікаўленні людзей, мясцовых шаптух і лячэнне зёлкамі, аб небяспецы ад празмернага карыстання інтэрнэтам, аб посных звычаях і пра гістарычныя помнікі Орлі.

— Найцяжэй збіраць матэрыял на вуліцы, бо складана пераканаць выпадкова спатканыя асобы выказацца, — сказала Ася Сойка.

— Найлягчэй размаўляць са старэйшымі людзьмі, бо яны многа ведаюць і больш ахвотна расказваюць. Працуючы з малодшымі трэба падабраць адпаведныя пытанні, каб заахвоціць іх выказацца, — лічыць Магда Пасечнік.

Матэвуш Лемеш найбольш матэрыялаў сабраў ад свайго дзядулі з Кашалёў, а Лукаш Тамчук найбольш гаваркім лічыць Якуба Багацэвіча з Крывятыч. Пасля запісання выказванняў вучні мантуюць перадачы. Жыхары Арлянскай гміны ахвотна іх слухаюць. Праца для Радыё Рацыя гэта добрая нагода для практычнага выкарыстання беларускага жывога слова.

## Зацікавіць беларускімі справамі

— У маіх планах запісана пашырэнне навучання беларускай мове ў школе і зацікаўленне вучняў беларускімі справамі, каб назва нашай школы не была пустой. Зараз мы пастаянна супрацоўнічаем з Цэнтрам адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах (вучні пабывалі там на спектаклях і сустрэчах — А. М.), з Радыё Рацыя. Нашы вучні ездзілі на сустрэчы „Зоркі”, чытаюць у школе „Ніву”, удзельнічаюць у конкурсах, якія ладзіць Таварыства беларускай культуры ў супрацоўніцтве з БГКТ і займаюць у іх прызавыя месцы. З 2006 года ў нашай школе праводзяцца раённыя элімінацыі конкурсу „Роднае слова”, — сказала дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Орлі Марыя Тамчук, якая кіруе школай з верасня 2011 года. Яна — выпускніца беларускай філалогіі. Працуючы раней настаўніцай беларускай мовы, мела яна магчымасць спазнаць складанасці, якія спадарожнічаюць настаўнікам беларускай мовы, хаця б у час набору вучняў на заняткі беларускай мовы ў першыя класы пачатковай школы і гімназіі. Зараз у арлянскай гімназіі на занятакі беларускай мовы ходзіць 50% вучняў, а ў пачатковай школе — больш за 50%. У арлянскай школе ўмовы навучання — добрыя. Змяшчаецца яна ў вялікім будынку, збудаваным якраз дванаццаць гадоў таму. Крыху пазней узведзена была вялікая спартыўная зала. У прыгожай сталовай вучні карыстаюцца абедамі. Уласнік фабрыкі „Ікея” ў Кошках па-сучаснаму абсталяваў камп’ютарную залу, купіў новыя камп’ютэры, мультымедыйную дошку і праектар. Тэатральны гурт „Казка” з Пачатковай школы ў Орлі, якім пастаянна апякуецца Ала Зінкевіч, заняў другое месца на беларускім тэатральным аглядзе ладжаным БГКТ для школьнікаў (на гэты раз вучні рыхтаваліся перш за ўсё пад наглядам настаўніцы Марыі Лемеш).

— Нашыя вучні з чацвёртага і пятага класаў выступілі з пастаноўкай „У лесе” — пра экалогію і захаванне чысціні ў лесе. Сцэнічнае афармленне было вельмі каляровым і багатым, — удакладніла Марыя Лемеш і расказала пра поспехі вучняў у беларускіх конкурсах. — Мы стараемся заахвочваць вучняў, каб як найбольш з іх вучылася беларускай мове і дзеля гэтага робім урокі як найбольш разнароднымі. З наймалодшымі дзеткамі многа гуляем. Нашыя вучні штодзень ужо польскамоўныя і таму складана вучыць беларускай мове ў першым і другім класах, для якіх няма нават актуальных падручнікаў. Я ўжо раблю ксеракопіі старонак „Літарынкі” і раздаю іх дзеткам.

Размаўляў я з некаторымі лаўрэатамі беларускамоўных конкурсаў, якія прыйшлі ў дырэктарскі кабінет зрабіць агульны здымак:

— Я беларуска і нарадзілася ў Беларусі. Цяпер жыву ў Тапчыкалах. Заняла я трэцяе месца ў конкурсе „Пазнай Беларусь” у намінацыі „Беларусь у гісторыі маёй сям’і”. Мне вельмі падабаецца вучоба беларускай мове і таму рашылася прыступіць да конкурсу, — заявіла Вікторыя Карунас.



Гімназісты рыхтуюць перадачу для Радыё Рацыя пад наглядам журналісткі Наталлі Герасімюк

Дэкламатарка Моніка Зурчук-Жар размаўляла на гаворцы, так як гавораць у Градалях. Юліта Кулік, лаўрэатка прадметнага конкурсу па беларускай мове, любіць беларускую літаратуру, а Дамініка Дэнісюк любіць дэкламававаць.

## Дабіліся незвычайных вынікаў

Арлянскія гімназісты нядаўна даведаліся, што сталі пераможцамі Агульнапольскага маладзёжнага краязнаўчага конкурсу „Знаёмімся з бацькаўшчынай”, які ладзіць Польскае турыстычна-краязнаўчае таварыства. У першай палове мая пабывалі яны ў Прудніку, дзе адбылося падвядзенне вынікаў конкурсу. Гімназісты з Орлі чатыры разы прыступалі да гэтага конкурсу і раней займалі ў ім два разы першае месца, а раз — другое. Сёлета два арлянскія гімназічныя калектывы занялі адпаведна першае і другое месцы. Арлянскія вучні дабіліся незвычайных вынікаў, беручы пад увагу, што сёлета ў конкурсе ўдзельнічалі вучні з амаль 300 школ з усяе краіны. Арлянскія гімназічныя калетывы ўжо чацвёрты раз змагаліся ў катэгорыі „Мультымедыйныя працы”. Спачатку паказалі яны фільмы на ваяводскіх элімінацыях у Сувалках, дзе таксама занялі адпаведна першае і другое месцы. Першае месца на цэнтральным этапе занялі Эвеліна Дар’я Добаш, Габрыеля Дар’я Рошчанка і Іаанна Сойка за фільм „Хобі ў калейдаскопе пор года”, які падрыхтавалі пад наглядам настаўніц Мірaславы Раманюк і Анны Баршчэўскай. Другое месца занялі Марцін Алексяюк, Міхал Леанюк і Матэвуш Назарэвіч за фільм „І ў Орлі было кіно”, падрыхтаваны пад наглядам Дар’юша Яна Гарадэцкага.

— Тэму фільма „Хобі ў калейдаскопе пор года” запрапанавала нам наша настаўніца. Пасля мы прапанову дакладна распрацавалі. Знайшлі людзей, якія ў нашай гміне робяць кветкі, выцінанкі і іншыя вырабы з паперы ды пчалавода, якія згадзіліся выступіць перад камерай. Мы прымеркавалі гэтыя асобы да розных пор года і стараліся цікава паказаць тое, чым яны займаюцца. Пераплялі мы паказ іх заняткаў з іх выказваннямі і прэзентацыяй нашай прыгожай прыроды ў час розных пор года, — сказала Іаанна Сойка.

— Нашы дзяўчаты самі рыхтавалі пытанні для размоў, падбіралі месцы на прыродзе і іншыя сцэны да фільма і самі яго знялі, што заняло ім многа часу. Пасля мы супольна апрацоўвалі зняты матэрыял і зрабілі з яго пятнаццаціхвілінны фільм, — сказала настаўніца Міраслава Раманюк.

Здымачны калектыў стараўся захаваць клімат Арлянскай гміны і закончыў фільм беларускай песняй ды сюжэтам з указальнікам мясцовасці на польскай і беларускай мовах. У мінулых гадах арлянскія гімназісты на згаданы конкурс дасылалі фільмы пра Орлю, яе сінагогу, вясковых шаптух і атрымлівалі прызы.

— Мой дзядуля Ян Адзіевіч быў кінамеханікам у Орлі на працягу сарака гадоў, ажно да васьмідзесятых гадоў. У кіно дапамагала яму бабуля Марыя Адзіевіч, якая галоўным чынам прадавала білеты. Гэта стала матывам для нашага фільма „І ў Орлі было кіно”, — сказаў гімназіст Міхал Леанюк. Яго сябра Марцін Алексяюк галоўным чынам займаўся тэхнічным бокам фільма. Згаданы фільм на аглядзе „Anim@kcja” ў Беластоку таксама заняў другое месца.

У арлянскай школе асабліва ўрачыста ладзіцца „Дзень беларускай культуры”. Тады вучні абавязкова здымаюць фільм, так як і з іншых школьных мерапрыемстваў. Арлянскія гімназісты знялі фільмы пра беларускія калектывы „Арляне”, „Малінкі” з Маліннік, ці гурт „Луна” з Парцава. Апошнім часам гімназісты склалі кніжку „На супольнай зямлі” пра арлянскіх яўрэяў і, у якасці дадатка да яе, знялі сем кароценькіх фільмаў. Гэтую працу таксама паслалі на конкурс. Гімназісты пад наглядам настаўніка геаграфіі Дар’юша Гарадэцкага збіраюць гістарычныя матэрыялы аб Орлі і наваколлі. Асаблівай увагі заслугоўвае выдадзеная на польскай і беларускай мовах кніжка аб гісторыі і абрадах „Бацькаўшчына ад нараджэння да смерці”, да якой дададзены мультымедыйныя матэрыялы. Вучні збіралі таксама тапонімы з Орлі, Шарнёў, Кашалёў і Вулькі, якія былі апублікаваны ў кніжных выданнях.

## Збірайце зёлкі!

Лекавыя зёлкі патрэбныя ў нашай дамашняй гаспадарцы — у якасці прыпраў да страў ды адвараў да смакавітых напояў. Зёлкі выкарыстоўваем у фармацэўтычнай, касметычнай і харчовай прамысловасці.

Зараз чэрвень і пара збіраць зёлкі ды дастаўляць іх да пунктаў скупкі. Гэта таксама магчымасць зарабіць. Дастаткова хацець, мець крыху ведаў пра лекавыя расліны і пра спосабы іх сушэння. У Нараўчанскай гміне ёсць пастаянныя збіральніцы, між іншым, у Плянце, Старым Ляўкове, Ахрымах і Нараўцы.

І так, кілаграм сушаных кветак каштана і падбелу каштуе 20 зл., маргарыткі — 25 зл., адуванчыка-дзьмухаўца — 8 зл., а ўжо ясноткі (глухой крапівы) — ажно 110 зл.! Зараз сушанае лісце бярозы каштуе 3,50 зл., брусніцы і мядзведжага часнаку — па 10 зл. Зелле крапівы прадасце па 2,20 зл. за кілаграм, а маруны пахучай — па 10 зл. Па 13 зл. можна атрымаць за карэнне пяцёрніка, 5 зл. — крапівы, 8 зл. — аеру, 16 зл. — дзьмухаўца, 5,50 зл. за карэнне г.зв. конскага шчаўя і 1,80 зл. — пырніку.

Калі збярэм больш зёлак, тады на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў і сумесяў. **(яц)**

## Загуменная дарога

Гэтую дарогу ў вёсцы Бялкі Нарваўскай гміны называюць «дарогай па-за клунямі». На гэтай дарозе амаль 200-метровы адрэзак, пачынаючы ад старшыні вясковай рады па ўсходнім напрамку, калі пойдзе дождж, вельмі балоцісты. У другім месцы, каля члена вясковай рады, знаходзіцца грамадская жвіроўня. Там калісь падкапаліся пад дарогу. Калі б цяпер уласнікі ўчасткаў загарадзілі іх па геадэзічных капцах, то было б цяжка праехаць.

Згаданая дарога адыходзіць ад жвіроўкі Бялкі — Агароднікі і праз цэлую вёску спалучаецца з дарогай Бялкі — Каўпакі. Шырыня гэтай дарогі складае 12 метраў. Тудою часта праязджаюць легкавушкі, бо яна лепей выглядае, чым вуліца ў самой вёсцы. На гэтую дарогу некаторыя вяскоўцы выкідаюць смецце, пілавінне, якое потым утварае балота.

Вясковая рада і солтыс не павінны саромецца звярнуцца да праўлення гміны і войта з патрабаваннем адрамантаваць загуменную дарогу. Тут жа на месцы свой жвір. А тыя гаспадары, што прыаралі дарогу, павінны адрачыся ад гэтага.

## Адгалоска

У «Ніве» № 19 ад 6 мая 2012 года прачытаў я допіс Адама Бобрыка пра «Ніву» ў Седльцах. Там дырэктарка Гарадской публічнай бібліятэкі Ядвіга Мадзяр падпісалася на «Ніву». Калі яна даведалася, што яе чытачы зацікаўлены «Нівай», нашай меншасцю і яе культурай, адразу выйшла ім насустрач. Такім людзям як Ядвіга Мадзяр трэба шчыра дзякаваць за сумленнасць у яе працы.

Ведаю, што ў Высокім-Мазавецкім, Ломжы, Кольне, Голдапе, Замбраве і іншых гарадах заходняй і паўночнай часткі Падляшскага ваяводства жывуць праваслаўныя беларусы. Цікава ці ў публічных бібліятэках могуць яны прачытаць «Ніву».

Цікава таксама ці ў бібліятэках Гайнаўскага, Бельскага, Беластоцкага ці Сакольскага паветаў можна пабачыць наш тыднёвік. Я думаю, што пэўна не.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

Іаанна ЧАБАН

# Яшчэ адзін юбілей



Новыя сукенкі харыстак цудоўна ўпісваюцца ў інтэр'ер вялікай актавай залы Палаца Браніцкіх

Хор Медычнага ўніверсітэта ў Беластоку толькі што адзначыў свой шасцідзесяцігадовы юбілей. Гэта адзін з самых старэйшых універсітэцкіх хароў нашай краіны, створаны ў 1951 г. студэнтамі, энтузіястамі спеву. Сядзібай калектыву ад самага пачатку з'яўляецца гонар Беластока — барочны Палац Браніцкіх, званы „Версалем Поўначы". Рэпетыцыі хору рэгулярна праходзяць у самай рэпрэзентатыўнай вялікай актавай зале — у Аўлі Магна. Дзякуючы незвычайнай прыгажосці гэтага месца, як і выдатнай акустыцы, тут неаднаразова адбываліся конкурсныя слуханні хароў у рамках Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі.

Калектыў пявучых медыкаў упісваецца ў катэгорыю мяшаных хароў. З 1991 года абавязкі мастацкага кіраўніка хору выконвае Бажэнна Савіцкая — прафесар Музычнага ўніверсітэта імя Фрыдэрыка Шапэна. З 2003 года, у якасці другога дырыжора працуе тут таксама Анна Манюшка. У рэпертуары хору пераважае сакральная і свецкая музыка эпохі рэнесансу, ёсць таксама творы вядомых, сучасных кампазітараў. Нярэдка бываюць араторыі і оперныя творы з суправаджэннем сімфанічных і камерных калектываў Польшчы і замежжа.

З сямідзесятых гадоў хор рэгулярна супрацоўнічае з аркестрам Падляшскай оперы і філармоніі. Выступаў таксама з аркестрамі Шчэцінскай, Кялецкай, Люблінскай філармоній, Варшаўскага музычнага ўніверсітэта, Бельгійскага ўніверсітэта ў Лювене і інш.

На працягу шасцідзесяці гадоў свайго існавання беластоцкія медыкі ўдзельнічалі ў шматлікіх прэстыжных конкурсах і фестывалях, пашыраючы сваю багатую калекцыю ўзнагарод і вылучэнняў. Яны выступалі, між іншым, у Аўстрыі, Бельгіі, Балгарыі, Чэхіі, Даніі, Францыі, Грэцыі, Іспаніі, Галандыі, Ірландыі, Літве, Нямеччыне і Ізраілі.

У 2006 г. хор удзельнічаў у трансгранічным, беларуска-польскім праекце „Спалучае нас пушча і песня", рэалізаваным Фондам „Царкоўная музыка" ў Гайнаўцы, які праходзіў у Белавежы і ў беларускім Камянцы. Фіналам гэтай ініцыятывы быў запіс кружэлкі з песнямі пра Белавежскую пушчу кампазітараў Фелікса Нававейскага і Рамуальда Твардоўскага на словы м.інш. Чэслава Мілаша. Неаднойчы хор займаў прызавыя месцы на Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. У канцы 2011 года, у рамках святкавання шасцідзесяцігоддзя дзейнасці Медычнага ўніверсітэта ў Беластоку, хор запісаў чарговы дыск, у гэты раз „Магніфікат" Вівальдзі з удзелам калектыву даўніх інструментаў і творы а капэла ў выкананні камернага хору „Мэдзі коро".

У хоры свае кар'еры пачыналі такія вядомыя салісты як Агнешка Звярко, Малгажата Валеўская, Адам Здунікоўскі і Роберт Герлях.



Галена Пухальская

Тут таксама вакальнае майстэрства набывае Галена Пухальская — сузаснавальніца і дзяячка Культурнага таварыства „Тэрра Інкогніта" і вядомага беларускай публіцы крынскага дуэта „Зараніца".

— Ужо шэсць гадоў трывае мая прыгода з хорам Медычнага ўніверсітэта, — кажа Галена Пухальская. — Добра памятаю святкаванне пяцідзесяціпяцігадовага юбілею. Тады я была зусім новай, маладой харысткай. Прывяла мяне тут сяброўка — вопытная спявачка. Тады я не ведала беластоцкага харавога асяроддзя, не магла ацаніць хто тут лепшы ці горшы. Можна сказаць, зусім выпадкова папала я ў кампанію пявучых медыкаў — студэнтаў, навуковых працаўнікоў медінстытута, дактароў. Ёсць тут таксама пару асоб не звязаных з медыцынай. Паспяхова прайшла я ўступныя слуханні і выпрабавальны тэрмін. Мае вакальныя магчымасці ацанілі як надзейныя і так ужо асталося. Папраўдзе пра далучэнне да хору я думала значна раней, на жаль жыццёвыя абставіны доўга на гэта не дазвалялі. Палохала інтэнсіўнасць і позняя пара рэпетыцый. Наогул яны праходзяць два разы ў тыдзень, але перад канцэртамі спатыкаемся практычна кожны дзень. Тут патрабуецца поўная ангажаванасць і сістэматычнасць. Многа людзей, з якімі я тут пачынала, даўно ўжо не спявае, не стала ім цярплівасці, таленту, ахвоты.

Вельмі мне імпануе нашая дырыжор Бажэнна Савіцкая, чалавек з харызмай і аўтарытэтам, майстар сваёй прафесіі. У большасці гэта яе заслуга, што я працягваю супрацоўніцтва з хорам. З нагоды нашага юбілею яе ўзнагародзіў сам прэзідэнт Беластока. Гэта напэўна не першае і, думаю, не апошняе яе вылучэнне.

Харавы спеў, па-мойму, з'яўляецца вяршыняй развіцця вакальнага майстэрства. Дагэтуль я спявала ў касцельнай схолі на імшах. Гэта ўсё-такі зусім розныя, несупастаўляльныя формы музычнай інтэрпрэтацыі. Членства ў хоры трактую вельмі сур'ёзна. Яно дае перш за ўсё магчымасць развіцця голасу, пашырэння яго спектра, самарэалізацыі. Вельмі люблю спяваць, ганаруся хорам. Мастацкі ўзровень калектыву я заўважыла на конкурсах і канцэртах, дзе заўсёды атрымліваем вылучэнні і прызавыя месцы.

Наш хор ведаюць не толькі ў Польшчы, але і за мяжой. На жаль, я не ў змозе ўдзельнічаць у далёкіх, шматдзённых паездках. Не дазваляюць працоўныя абавязкі. Усё-такі гэта не найважнейшае. Асновай, па-мойму, з'яўляецца прысутнасць на рэпетыцыях. Удзел у канцэртах на месцы поўнасцю мяне задавальняе. З імі таксама звязаны вялікія эмоцыі. З аднолькавай дакладнасцю рыхтуюся і моцна перажываю кожнае выступленне. Наплыў адрэналіну і задавальненне пасля ўдалага канцэрта гэта галоўная мая ўзнагарода. Гэты эйфарычны стан аднаўляецца з кожным, чарговым выступленнем.

Рэдка бывае, каб мне штось у рэпертуары не падышло. Я вельмі люблю вучыцца штораз то новых твораў. Калі большасці харыстаў канкрэтная музыка не даспадобы па прычыне складанасці ці празмернасці, то мне наадварот. Люблю выклік. Няма нічога больш прыўзнятага як канцэрт з аркестрам. Прысутнасць інструментаў дабаўляе спецыяльнага вобліку сцэне і мерапрыемству, стварае настрой сапраўднага свята. Найчасцей спяваем а капэла, аркестр суправаджае нас зрэдку, толькі пры спецыяльных нагодах.

Менавіта з Камерным аркестрам Падляшскай оперы і філармоніі хор Медычнага ўніверсітэта ў Беластоку падрыхтаваў спецыяльную праграму, якая прагучала 19 траўня 2012 года ў канцэртнай зале Падляшскай оперы і філармоніі. Хор паказаўся з самага лепшага боку. Публіка захаплялася прафесійным выкананнем твораў і новымі чорна-пурпуровымі сукенкамі харыстак, запраектаванымі ў барочнай стылістыцы.

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Мы — суб’ект

Пад лозунгам „**Салідарныя з культурай — мастацкая карціна беларускай меншасці на Падляшшы**” ў беластоцкім Цэнтры імя Людвіка Заменгофа адбылася дэбата з удзелам прадстаўнікоў беларускіх асяроддзяў.

— Грэхам было б не пакарыстацца гэтым патэнцыялам, якім з’яўляюцца людзі, звязаныя з беларускай меншасцю, — пачаў сустрэчу Павел Пазнанскі з Еўрапейскай асацыяцыі студэнтаў-юрыстаў ЭЛСА, галоўны арганізатар дыскусіі (арганізацыйным партнёрам было Беларускае аб’яднанне студэнтаў).

У дзень (22 мая), у якім праводзілася дэбата, ва ўсёй Польшчы працягваўся пратэст артыстаў ды працаўнікоў мастацкіх галерэй і музеяў, датычны іхняй сітуацыі, асабліва фінансавай; у Беластоку прыняла ў ім удзел прэстыжная галерэя „Арсенал”. На жаль, не дабраліся на сустрэчу два дыскутанты — гісторык праф. Яўген Міpановіч ды дапамагаюць людзям у пошуках беларускай тоеснасці.

**Юры Каліна**, сакратар Тэлебачання Беласток, знакаміты дакументаліст, некалькі дзён пасля дэбаты вылучаны чарговай узнагародай, у гэты раз у катэгорыі інспірацыі ў час свята польскіх рэпартажыстаў „Мельхіёры” (дарэчы, у час урачыстасці выступіў ён у кашулі з беларускімі ўзорамі) успомніў м.інш. аб кіраваным ім „Беларускім тыдні”, тэлеперадачы беларускай меншасці:

— Гэтая праграма таксама дапамагае пазбыцца комплексу прыналежнасці да беларускага этнасу.

Артыст-фатограф, аўтар славутага праекта „Меляшкі” **Павал Грэсь** паставіўся крытычна: маем дачыненне з пасіўным атрымальнікам. Апрача таго, каб узнік праект на адпаведным узроўні, патрэбны грошы, а тэлебачанне апынулася на краі банкрутцва.

Яўген Вапа:

— Недахоп грошай перапыняе нармальнае развіццё. Аднак журналісцкая адказнасць прымушае да ўдасканальвання майстэрства.

**Енджэй Дандзіла**, арганізатар шматлікіх клубных імпрэз, асабліва звязаных з электроннай музыкай, каардынатар „Up To Date Festival” у Беластоку распавядаў пра свой вопыт з беларускімі музыкамі:

— Першы кантакт з беларускай культурай я меў у час арганізацыі фестывалю „Up To Date”. Цяпер актыўна працую на другім баку, пасярод беларусаў, у такіх галінах як электронная музыка і гіп-гоп. Актыўнае ў тым плане Гродна; мяне нават задзівіла іх актыўнасць. Маштаб падзей такога тыпу там мабыць меншы чым у Беластоку, ды напэўна значна больш інтэнсіўны.

У фестывалі „Up To Date” мае быць — як гэта адзначыў Енджэй



Злева: Юры Каліна, Павал Грэсь, Віктар Швед, Енджэй Дандзіла, Ілона Карпюк і Яўген Вапа

Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. **Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў РП, спаслаўся ў пачатку свайго выступлення на лозунг запрапанаваны арганізатарамі:

— Салідарнасці патрабуе ўся культура, без падзелаў на польскую ці беларускую, асабліва ў дзень пратэстаў музеяў ва ўсёй краіне. Найгорш было б, калі б гэта былі (беларуская і польская культуры — М. Х.) два асобныя акварыумы, у якіх памутнела вада, што магло б давесці да задухі. У некаторых сегментах мусіць існаваць праніканне культур (...). Пісанне і гаворка пра беларускую культуру мусіць адбывацца на беларускай мове, непарыўна звязана яно з беларускай моваі, а затым — і беларускай думкай.

Індывідуаламі культуры назваў ён м.інш. пісьменніка Ігната Карповіча, прызнанага ў Польшчы літаратара, родам са Случанкі ў Гарадоцкай гміне, які публічна ў час апошняга нацыянальнага перапісу назваў сябе беларусам, ды Міхала Андрасюка з Гайнаўкі, лаўрэата апошняй літаратурнай прэміі прэзідэнта Беластока. У сваю чаргу, на яго думку, „Ніва” і Радыё Рацыя

— Я не адчуваю падтрымкі з боку беларускіх СМІ (тут аднак пералічыў фінансавую дапамогу Радыё Рацыя для аднаго са сваіх апошніх праектаў — М. Х.). Медыі адыгрываюць чыста інфармацыйную ролю. У сваю чаргу людзі не маюць прывычкі раздумваць пра тое, што думаў аўтар. Ягоныя творы ацэньваюць толькі на эстэтычным ўзроўні: падабаецца, або не.

**Ілона Карпюк**, па адукацыі сацыёлаг, вакалістка гурту „Ilo&friends”, былая арганізатарка фестывалю „Басовішча”, адзначыла актыўнасць беларускіх СМІ, у тым ліку „Нівы”:

— Можам кадзіраваць рэчаіснасць, не засяроджваючыся толькі на тым, што часовае, а беларускія праблемы разглядаць шматслойна. Стварэнне на беларускай мове важнае для нашай тоеснасці. Важна, аднак, таксама, каб публікацыі паказваліся па-польску. Трэба пашыраць кола атрымальнікаў.

Тут уключыўся з колкай заўвагай Павал Грэсь:

— Для беларускіх СМІ важнейшае само слова пісанае па-беларуску, чым змест. Не трэба зачыняцца толькі ў беларускім асяроддзі, мы павінны быць канкурэнтаздольнымі.

Юры Каліна:

— Праблемай з’яўляецца тое, што Дандзіла — занятых больш асоб з Беларусі, асабліва з Гродна.

Яўген Вапа запрасіў яго пры нагодзе да рэалізацыі ў прамым эфіры перадач з электроннай музыкай у эфіры Радыё Рацыя. Пасля звярнуў увагу:

— Улады Беластока не ўсведамляюць сабе багацця, якім з’яўляецца беларуская меншасць. Гэта шчасце горада, а не кандалы. Я яшчэ не чуў, каб прэзідэнт горада паехаў на імпрэзу прамуючую Беласток у Польшчы з беларускім мастаком, скажам, пісьменнікам, такім як Міхал Андрасюк. Мусяць нас трактаваць як суб’ект. Нельга абмяжоўвацца да заявы: я да вас стаўлюся талерантна.

У сустрэчы прыняў удзел паэт **Віктар Швед**, які апублікаваў — як пералічыў — 2 700 вершаў і выдаў 16 паэтычных зборнікаў для дзяцей і дарослых. Распавядаў ён пра сваю творчасць і доўгі жыццёвы шлях. Паскардзіўся, што ў апошнія гады не запрашаюць яго ў школы на аўтарскія сустрэчы.

— Прыгожае пісьменства — залежнае ад асветы, — прыкмеціў паэт.

На завяршэнне дэбаты прадэманстраваны быў дакументальны фільм Юрыя Каліны „Балада пра Меляшкі” з удзелам Паўла Грэся.

## Найлепшыя спартсмены

8 мая г.г. пры сонечным надвор’і ў Свінароях (Нараўчанская гміна) на ўскраіне Белавежскай пушчы адбыліся Павятовыя бегі ЛЗС па перасечанай мясцовасці (biegi przełajowe). Удзельнічалі ў іх вучні пачатковых школ і гімназій ды дарослыя, між іншым, з Белавежскай, Дубіцкай, Гайнаўскай, Кляшчэлеўскай, Нарваўскай і Нараўчанскай гмін. Усіх разам 360 асоб. Такога роду мерапрыемства адбылося чатырнаццаты раз. Яго завадатарам нястомна астаецца Андрэй Скепка, зараз намеснік старасты Гайнаўскага павета.

Гасцямі мерапрыемства былі Ян Залеўскі, старшыня Ваяводскага праўлення згуртавання ЛЗС у Беластоку, Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны, надляснічы Надлясніцтва Броўск, камендант мясцовай паліцыі. Галоўным суддзёй спаборніцтваў быў Януш Людвічак з Гайнаўкі.

А вось прозвішчы найлепшых спартсменаў-бегуноў. У катэгорыі дзяўчат з IV класа пачатковай школы першынство заваявала Каміля Цесляк з Белавежы і сярод юнакоў-чатырохкласнікаў — Адам Майсевіч з Кляшчэль. У катэгорыі класаў V-VI ПШ першае месца сярод дзяўчат заняла Анна Бляўская з Нараўкі і сярод юнакоў Лукаш Прэдка з Нарвы. Сярод гімназістак I-II класаў перамагла Івона Анішчук з Дубін ды з III класа — Патрыцыя Астапкевіч з Нарвы. З групы гімназістаў першынство заваяваў Кандрат Ксёнжык з Гайнаўкі. У катэгорыі дарослых першым фінішаваў Ян Клімюк з беластоцкага спартыўнага клуба „Падляшша”.

Найлепшыя бегуны атрымалі медалі, дыпломы ды рэчавыя ўзнагароды. Былі таксама спецыяльныя ўзнагароды ад Маршалкоўскай управы, ад старасты Гайнаўскага павета, войта Нараўчанскай гміны ды надляснічага Надлясніцтва Броўск.

Варта адзначыць, што залаты значок ЛЗС атрымаў ніўскі карэспандэнт Янка Целушэцкі.

## Марш годнасці

10 мая г.г. некалькі соцень гайнаўян удзельнічалі ў Маршы годнасці людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Ішлі яны з транспарантамі вуліцамі 3 Мая, Сцяґеннага і Белавежскай. Інваліды маюць сваю годнасць. Яны — раўнапраўныя члены нашага грамадства. Марш арганізаваў Павятовы асяродак дапамогі сям’і ў Гайнаўцы.

Маладыя і старэйшыя хацелі звярнуць увагу на праблемы людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Яны цешыліся, што разам з імі ў паходзе ішлі староста Гайнаўскага павета Уладзімір Пятрочук, намеснік старасты Андрэй Скепка, бурмістр Гайнаўкі Ежы Сірак, кіраўнік Павятовага цэнтра дапамогі сям’і ў Гайнаўцы Павел Шыманюк і інш.

Пасля заканчэння шэсця адбыўся інтэграцыйны фэст на пляцоўцы ў засені дрэў (стаяла сонечнае і цёплае надвор’е) па вуліцы Паркавай. Былі печаныя на вогнішчы кілбаскі, гарохавы суп і ахаладжальныя напіткі.

Маршы годнасці адыгрываюць вялікую ролю ў інтэграцыі інвалідаў з грамадствам. Яны будуць арганізаваны ў будучыні.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Найлепшыя з найлепшых

На I Агульнапольскім конкурсе „Ратуем і вучым ратаваць", арганізаваным Вялікім аркестрам святочнай дапамогі, першае месца занялі вучні III класа падставовай школы Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Орлі. У час фіналу ў Варшаве арлянскія вучні, якія прадстаўлялі Падляшскае ваяводства, перамаглі 15 каманд самых лепшых маладых ратаўнікоў з астатніх ваяводстваў краіны. Пакуль яны дайшлі да фіналу, выслалі мастацкія працы на конкурс, затым на ваяводскіх спаборніцтвах у Беластоку выйгралі з усімі камандамі з Падляшша. Героямі арлянскай школы сталі Дамініка Дэнісюк, Мая Аксентовіч, Міхал Куніцкі, Якуб Стэмпа і іх настаўніца Альжбета Цюлькевіч.

— Фінальныя спаборніцтвы вёў сам Ежы Оўсяк (заснавальнік і старшыня ўправы Фонду Вялікі аркестр святочнай дапамогі — А. М.), які падыходзіў да нас, размаўляў і падбадзёрваў да змагання і перамогі. Пасля падпісаў нам майкі, — гаварылі арлянскія трэцякласнікі.



фота Аляксея МАРОЗА

*Трэцякласнікі Дамініка Дэнісюк, Мая Аксентовіч, Міхал Куніцкі і Якуб Стэмпа з настаўніцай Альжбетай Цюлькевіч у майках Вялікага аркестра святочнай дапамогі з аўтографам Ежы Оўсяка*

Настаўніца пачатковага навучання Альжбета Цюлькевіч таксама прымала ўдзел у спаборніцтвах і таму перад фіналам многа трэніравалася разам са сваімі дзеткамі.

— Мы вельмі цешыліся, калі перамаглі ў ваяводстве. А калі нам сталі добра атрымлівацца фінальныя змаганні, мы сталі разлічваць на трэцяе або і другое месца, але не думалі, што зоймем першае, — сказалі маладыя выратавальнікі.

— У час фіналу ў Варшаве было вельмі многа эмоцый. Ужо з самага пачатку вялікая зала „Арэна Урсынуў" зрабіла на нашых вучнях аграмаднае ўражанне. Аднак дзеткі не спалохаліся, узялі сябе ў рукі і перамаглі ўсе каманды з намнога большых ад Орлі гарадоў, — гаварыла абрадаваная настаўніца Альжбета Цюлькевіч.

Цяпер у арлянскай школе вучні ганарацца перамогай сваіх калег у маштабе краіны.

Калі вучні III класа былі кваліфікаваныя да ваяводскіх элімінацый конкурсу, пачалі больш трэніравацца па аказванні першай дапамогі. З іх ліку была выбрана каманда з чатырох асоб. У фінале найбольш эмоцый было ў час спартыўных спаборніцтваў. Балельшчыкі паасобных каманд былі тады найбольш гучнымі.

— Спачатку мы былі крыху ўсхваляваныя, але калі трэба было змагацца, мы забылі пра страх і стараліся як найлепш справіцца ў ходзе спаборніцтваў і выратавальных дзеянняў, — сказалі вучні.

Трэба было ім як мага найбольш акуратна, але адначасна як найхутчэй, выканаць выратавальныя працэдуры і дапамагчы чалавеку, які занядужаў. Спачатку дзеткі спраўджалі, у якім стане знаходзіцца чалавек, які патрабуе дапамогі, што адбываецца навокал яго і тэлефанавалі на выратавальны нумар. Клікалі хуткую дапамогу і тлумачылі, што здарылася, а толькі пасля прыступалі да рэанімацыі, калі такая была патрэбная. У час спаборніцтваў трэба было бегаць як мага найхутчэй, скакаць і выконваць іншыя задачы, якія патрабавалі ранейшай салідной трэніроўкі.

— Цяпер мы ўжо ведаем, што трэба рабіць, калі ўбачым асобу, якая ляжыць на вуліцы. Калі б яна патрабавала дапамогі, напэўна не пакінулі б мы яе, прайшоўшы збоку, але клікалі б хуткую дапамогу і самі стараліся б дапамагчы чалавеку, — сказалі юныя выратавальнікі. — Тое, чаму мы навучыліся ў час выратавальнага конкурсу, можа нам спатрэбіцца ў жыцці.

— Дзеткі навучыліся працаваць у калектыве і хутка прымаць рашэнні, якія могуць дапамагчы захаваць жыццё іншым людзям, — дадала настаўніца.

Арлянскія вучні пры нагодзе мелі магчымасць пабываць у Варшаве і наведаць некаторыя цікавыя месцы сталіцы. Ад арганізатараў конкурсу атрымалі шыкарныя ўзнагароды, прыгожы кубак, інтэрактыўную дошку, праектар, ноўтбук і камплект адукацыйных гульняў, якія перадалі школе.

**Аляксей МАРОЗ**

## Вершы Віктара Шведа

### Смяльчак

У крамку прыйшоў смяльчак,
Цікавіў яго каньяк.
Прадаўшчыца пачала пытацца:
— Ці споўнілася васемнаццаць?

А смяльчак азваўся весела:
— Ці мае канцэсію?
Прадаўшчыца асцярожна:
— Нам пажартаваць не можна?

### Склератычная сямейка

Муж з жонкай едуць на спатканне,
З'елі абед у рэстаране.
Зрабілі кіламетраў пару,
Згубіла жонка акуляры.

А за хвіліну яны знoўку
Разам вярнуліся ў сталоўку.
Тут акуляры знайшла Ружа,
А пры нагодзе шапку мужа.

*(польская купальская легенда)*

# Як Антку пераелася дараванае багацце



Легенду пра папараць-кветку смела можам лічыць брэндам Купалля. Магічная кветка цвіце раз у год, дакладна апоўначы з 23 на 24 чэрвеня, або, калі лічыць па старым стылі, з 6 на 7 ліпеня. Для беларусаў абазначае яна шчасце. Той, хто сарве папараць-кветку, будзе разумець мову дрэў і птушак, знойдзе прыхаваныя ў зямлі скарбы, будзе размаўляць на ўсіх мовах свету, атрымае славу, прызнанне людзей і шчасце ў каханні...

Інакш пра папараць-кветку распавядаюць польскія легенды. Яны перасцерагаюць перад знаходкай, якая хутчэй пашкодзіць у жыцці... Паслухайце...

Ад дзяцінства Антак марыў стаць панам і жыць у палацы. Аднойчы ён падслухаў як старыя гаварылі пра цуды ў ноч на Суботку — так у народнай польскай традыцыі называлі Купалле. Тады расцвітае папараць-кветка, якая прыносіць золата і палацы. Антак заўпарціўся і прысягнуў сам сабе: *Зраблю ўсё, каб знайсці гэтую кветачку!*

Міналі гады. Думка пра папараць-кветку проста апантала хлапца. Ён кожны год самотна выпраўляўся ў лес і да рання шукаў цудоўнай з'явы. Той, хто шукае, заўсёды знойдзе. Вось аднойчы пашчасціла і нашаму Антку. Ён у гарачцы сарваў залатую папараць-кветку і нават не пачуў як нябачная сіла перанесла яго ў залаты палац. Два гады плаваў ён у сваім багацці як той пончык у масле. Жыццё напамінала добры сон, з якога няма жаданне прасынацца. Але ўсё, нават легенда, мае канец і пачатак. Аднойчы Антак прыкмеціў у самога сябе дзіўную рэч. Цягам апошніх пяці гадоў ён ні разу не ўспомніў сваіх бацькоў, якія жылі ў бядзе, голадзе ды холадзе. Праўда, спачатку ратаваў яго нейкі халодны голас, які гучаў у яго галаве... Ён даказваў, што яго сям'я сама сабе вінаватая. Чаму яны бедныя? Бо — дурныя! А чаму дурныя? Бо — бедныя! І так кругом...

Але сэрца ведае больш, чым розум. Антак аднойчы пачуў на сабе чуллівы дотык матулі. Хтосьці здалёк прызываў яго імя ласкавым словам... Гэта паўтаралася днём і ноччу. Хлапец перастаў спаць. Ён ляжаў з прыадкрытымі вачамі і ведаў, што залатыя палацы яго ўжо не цікавяць. Хвалявалі яго прыніжаныя паклоны прыслугі і эканомаў, у якіх у вачах свяцілася адна мара: *Разбагацець! Разбагацець! Разбагацець!*

У канцы наш Антак рашыў ратаваць свае чалавечыя пачуцці. Ён загадаў сваім слугам завесці яго ў родную вёску, каб там падзяліцца багаццем з бацькамі. Ён узяў куфар золата і найлепшай яды, якая была ў яго ным двары. На месцы сустрэла сумная навіна. Людзі сказалі, што маці і бацька памерлі два гады таму... ад голаду. Антак паскідаў са сваіх пальцаў пярсцёнкі і заплакаў як бабёр. Ён зразумеў сваю памылку і захацеў памерці. А там, дзе чары — няма жартаў. Пад нашым героем расступілася зямля і праглынула самалюбнага багацея...

Вядома, гэтая гісторыя не запалохала маладых. Яны па сённяшні дзень на Суботку выпраўляюцца ў непраходныя лясы, каб пашукаць сабе папараць-кветку.

**ЗОРКА**



Фота Ганны Кандрацюк

„Казка пра надта сумнага асла" ў выкананні дзетак з аб'яднання АБ-БА

# Конкурс пра вясну (24)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. У якім спаборніцтве ў Польшчы перамаглі вучні з Орлі?**

а) у І Агульнапольскім конкурсе „Ратуем і вучым ратаваць",

б) у гонках на роварах,

в) у выпяканні „буславых лапак".

**2. Які загаловак музычнага спектакля, на словы Агнешкі Асецкай, пастаўленага вучнямі беластоцкай „чацвёркі"?**

а) „Прыпынак Басовішча",

б) „Станцыя вар'ятаў",

в) „Ой, у полі шырокім".

**3. Хто перамог у сёлетнім валейбольным турніры за кубак „Нівы" для гімназістаў?**

а) гімназісткі з Беластока,

б) гімназісткі з Кляшчэляў,

в) гімназісткі з бельскай „тройкі".

**4. Якое народнае свята адзначаем ноччу з 23 на 24 чэрвеня (або з 6 на 7 ліпеня)?**

а) Купалле,

б) Свята зоркі Венеры,

в) Свята папараць-кветкі.

Адказы дасылайце да 26 чэрвеня 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі"). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 21:** Начныя фільмавыя сеансы ладзяць у Арэшкаве (в); вучні з Нарвы 8 мая прыехалі ў Беласток са спектаклем „Перад Юр'ем" (б); помнік жураўлю пастаўлены ў Хірасіме ў Японіі (в); беларускі раперзорка, які распавядае пра праблемы моладзі — Vincent (а). **Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Каміля Навіцкая з Арэшкава, Вікторыя Патонец, Юлія Лясота з Нараўкі.** Віншуем!

**ЗОРКА**

## ШЧАСЦЕ... ЯК ГЭТА ПРЫГОЖА ГУЧЫЦЬ!

Часта думаем, што гэта шчасце? Грошы? А можа гэта проста такі стан, калі мы маем усё, чаго сабе захочам? Для кожнай асобы гэта мае іншую дэфініцыю. Для мяне, шчасце гэта мець пры сабе кагосьці, хто будзе плакаць і смяяцца ў той сам час, што я. Кагосьці, з кім будзе можна ўспамінаць разам перажыты час. Шчасце гэта для мяне таксама сям'я. Адзінокі чалавек ніколі не будзе шчаслівым. Сярод людзей таксама можам адчуваць сябе адзінокімі, але кожны павінен мець сябра, які будзе з намі на добрае і злое. Часта чуем, што грошы шчасця не даюць, толькі вазьмі і перажыві без іх цяпер. Людзі дацаняюць усё тады, калі гэта трацяць. На шчасце цяжка зарабіць, а каб страціць — дастаткова хвіліна. Таму мы павінны кожнага дня, калі падымаемся ранкам, паглядзець у акно, усміхнуцца і падумаць якое мы маем шчасце. Нашы дзяды змагаліся на вайне, са смерцю, з болем і цяжкай працай. Яны не маглі вучыцца. Мы цяпер маем гэта ўсё, але наракаем. Самі сабе шкодзім. Дарэмна пераймаемся ўсім, і не бачым таго, што сапраўды важнае. Часам трэба перастаць турбавацца тым, што падумаюць іншыя людзі. Варта хоць адзін раз быць эгаістам і падумаць аб сабе. Дарма мы шукаем шчасця праз сілу. Яно само да нас прыйдзе. Толькі трэба пачакаць і цешыцца момантам!

**Уршуля БЕРАЗАВЕЦ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 24

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 20:

Неба, азон, воз, на, масаж, Мухавец, рунь, вяснушкі, Ас, фон, паляк, вясёлка. Нага, фонд, вол, за, міс, вусны, марш, павук, сена, знаць, на, вясна, рыска, склон, ар, рука, маг, Іра, не, капітан.

Узнагароды, майкі з лагатыпам „Нівы", выйгралі **Крыстына Леўша**, **Мая Радзіванюк**, **Міхал Стоцкі**, **Вікторыя Патонец** з Нараўкі, **Габрыель Кузьмін** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Жыргчук**, **Сандра Пятроўская**, **Мартына Леанюк** з Орлі. Віншуем!



## Карткі з Гродна

Гарадскі асяродак культуры ў Ольштыне наладзіў выставу фатаграфій Войцеха Шэўчака, спалучаную з паказам дакументальнага фільма „Святыя балоты”, выпушчанага Згуртаваннем „Дыялог культур” з Беларусі. Аўтар здымкаў расказваў:

— У Беларусь я трапіў выпадкова. Хацеў ехаць у Казахстан, ды ўсё змовілася, каб гэта не атрымалася. Затое прыйшла прапанова з Беларусі. Я злякаўся выезду ў гэтую дзіўную дзяржаву, дзе семнаццаць гадоў дыктатуры Аляксандра Лукашэнкі. Аднак гэта было пападанне ў дзесятку. Меў быць там год, а атрымалася гадоў аж пяць. Тамашняя рэчаіснасць мяне не шакіравала, хаця ў сапраўднасці 99 працэнтаў інфармацый пра палякаў у Беларусі — гэта ілгунства. Выязджаючы нічога не ведаў чым ёсць Polska Macierz Szkolna, чуў пра Анжаліку Борыс і польскія арганізацыі. У Гродне працаваў я кансультантам па справах Польшчы ў тамашніх асветных установах, што дазволіла мне на блізкі кантакт з мясцовымі палякамі. Яшчэ займаўся ў фільмавым клубе „Нёман”, дзе навучаў моладзь фільмавай вытворчасці, вёў Дыскусійны клуб польскага фільма. Вёў заняткі па гісторыі Польшчы і агульнай, ладзіў гістарычныя віктарыны. У 2007 годзе заснаваў „Rocznik Grodzieński”, які меў паказваць сапраўднае аблічча беларусаў.

А які ж тыя беларусы? Гэта гасцінныя і мілыя людзі. Калі заходзіш да іх у госці, чакае там ветлівасць ды застаўлены закускай і гарэлкай стол. Аднак пунктуальнасць і адчуванне часу там іншае. Пазнаёміўся я з многімі беларусамі, пазнаў Гродзеншчыну ды Чарнобыльскую зону. Маё бачанне свету вельмі памянялася. Лічу, што з беларусамі трэба размаўляць, не змагацца, але шукаць узаемападабенства.

Пра свае здымкі мастак-фатограф сказаў:

— Начныя здымкі вельмі складаныя; выкананне аднаго можа заняць нават некалькі гадзін. Ноч хавае брыдоту, паказвае прыгажосць, таму начныя здымкі такія асаблівыя.

Хачу заахвоціць людзей, каб наведалі Гродзеншчыну, пабачылі сапраўдны яе выгляд і замік слухаць ілгунстваў, паразмаўляць з мясцовымі жыхарамі. Гарантую, што пасля гэтага ўяўленне пра Беларусь зменіцца на 180°. Гродзеншчына больш бяспечная чым многія польскія гарады. Там можна спакойна хадзіць у дзве ці тры гадзіны ночы і нічога не здарыцца.

Мая выстава мае змяніць вобраз Беларусі. Цешыць мяне тое, што быў сведкам апошніх подыхаў старой Беларусі. Зараз уваходзяць туды маркеты, пагоня за грашыма і будзе ўжо гэта зусім іншая дзяржава.

Пасля вернісажу Войцех Шэўчак сказаў „Ніве”:

— Нарадзіўся я ў 1972 годзе ў Шчытне, закончыў гістфак Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне. Пасля штудыяў працаваў настаўнікам у гімназіі ў Пасыме. Як фатограф супрацоўнічаў з перыядычнымі выданнямі „Gazeta Olsztyńska” і „Nasz Mazur”. З 2006 да 2011 года працаваў кансультантам па справах гісторыі Польшчы ў гродзенскім аддзяленні Macierzy Polskiej. Меў пяць фатаграфічных выставак у Гродне і Пецярбургу, зняў дакументальныя фільмы „Святы дуб”, „Памяці Міхала Валовіча” і „Святыя балоты”. У Гродне арганізаваў галерэю мастацтва „Korytarz” дзеля прамоцыі маладых творцаў. Заснаваў і быў старшынём згуртавання „Дыялог культур”, мэтай якога прамоцыя мазурскіх артыстаў і інтэграцыя мастацкага асяроддзя Шчытна ды развіццё культурнага польска-беларускага супрацоўніцтва, шляхам, м.інш., ладжання супольных ініцыятыў. **Андрэй ГАЎРЫЛЮК**

*У Дзень маці 15-годдзе святкаваў калектыў „Асенні ліст” з Гарадка. У сваю чаргу дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці адзначала ў той дзень гарадоцкая капэла „Хутар”. Гэтае свята ў Гарадоцкім цэнтры культуры спалучылі з адкрыццём выставы „Іголкай і ніткай маляванае” Міраславы Антановіч, якая спявае ў „Асеннім лісце”, аматаркі гафтавання, вязання кручком і вышыўкі.*

# Соль Гарадоцкай зямлі

Тэкст і фота **Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

Больш за сорак яе прац можна было паглядзець яшчэ да пачатку юбілейнага канцэрта ў холе ГЦК. Міраслава Антановіч мела ўжо свае выставы ў Зялёнай Гуры і сядзібе беластоцкага староства. У ГЦК захапляліся яе шматкаляровымі пейзажамі, прамяністымі іконкамі ці гістарычнымі сцэнамі, зачэрпнутымі з карцін вялікіх мастакоў. Былі каляровыя ручнікі, сурвэткі, абрусы і макаткі з беларускімі ўзорамі і арнаментыкай з гарадоцкага старонні. Мастачка вынесла сваё захапленне з роднага дому ў Меляшках. Асабліва хвалілася нам невялікай па памерах „Прускай данінай”, якая каштавала яе шмат працы, па прычыне, як казала, неабходнасці адлюстраваць дэталі твараў герояў.



Вернісаж, а перш за ўсё юбілей калектываў, прыцягнуў, як звычайна на імпрэзы ГЦК, шмат гарадчан. Сярод іх сустрэлі мы Яна Грыцука:

— Калі ёсць у мяне час, я такіх мерапрыемстваў не прапускаю. Асабліва слухаю тэксты, бо сам пішу вершыкі, на жаль, не па-беларуску, бо мяне ніхто не навучыў, але па-нашаму, польскімі літаркамі.

Спадарожнічаючая яму жонка Зофія:

— Няма тут іншых забаў, асабліва для нас, старэйшых, па-за гэтымі ў ГЦК. Тут проста супер. І можна сустрэцца са знаёмымі.

У сваю чаргу прадстаўніца моладзевага гарадоцкага калектыву „Вена” Іаася Генэя расказвала „Ніве” пра музыку, якою займаюцца юбіляры:

— У кожнага свой густ. Адным такая музыка падабаецца, іншым не, але яна ненайгоршая. Быў такі святочны праект, у якім наш гурт спяваў калядкі ў Гарадку, Міхалове і Крынках разам з „Асеннім лістом”. Гэта нават няблага нам атрымалася. Жанчыны файна падспеўвалі ў хорыках.



Міраслава Антановіч на фоне сваёй „Прускай даніны”

„Асенні ліст” узнік у кастрычніку 1996 г. І адразу меў сваё першае выступленне ў час гміннага Дня сеніёра. Ад пачатку спяваюць у ім галоўным чынам сеніёры. „Асенні ліст” — прадстаўнічы ансамбль Ваяводскага аддзела Саюза пенсіянераў, рэнтыстаў і інвалідаў. Назву запрапанавала яму Яўгенія Матыс. Першым музычным інструктарам „Асенняга ліста” стаў Ян Карповіч. Пасля быў ім Юры Астапчук, які пазней стаў дырэктарам дома культуры ў Гарадку, а за ім — Віктар Леанкевіч. Ад некалькіх гадоў калектывам займаецца Генадзь Шэмет (апрацоўвае аранжыроўкі калектыву).

Марыя Сіткоўская, сяброўка „Асенняга ліста” ў размове з „Нівай” ганарылася:

— Кожная з нас цешыцца спевам. Я спачатку была ў „Рассяпаным Гарадку”, пасля з’ехала адгэтуль. Праз семнаццаць гадоў вярнулася і трапіла якраз у „Асенні ліст”. Пачатак быў сціплы — сход, на якім Янка Карповіч запрапанаваў, каб такі калектыў узнік.

— Жанчынкі збіраліся на вячорках, — успамінала аб пачатках „Асенняга ліста” сённяшняя яго кіраўнічка Галена Бура. — Мы рашылі спяваць, бо на вячорках толькі так сядзець дык сумнавата. Адна заспявала адну песеньку, другая іншую, галоўным чынам тыя, што спяваліся па хатах. Я прыйшла ў калектыў, калі ён яшчэ нікуды не ездзіў. Пасля, наколькі памятаю, было нас з мужчынамі трыццаць асоб. Некаторыя па дарозе адышлі ад нас, іншыя паўміралі. Цяпер нас адзінаццаць чалавек. Мы ў калектыве неяк трымаемся. А так — людзі тут то сядзяць перш за ўсё перад тэлевізарам, нікуды ім не хочацца выходзіць. А мы ўсе на пенсіях і ахвотна прыходзім на рэпетыцыі ды ездзім усюды, куды нас запрашаюць. Трэба штосьці рабіць, каб не загінула наша беларуская песня.

Генадзь Шэмет быў упэўнены:

— Лепш прыйсці ў дом культуры і паспяваць, чым сядзець перад тэлевізарам і траціць час. А тут жыве і развіваецца беларуская традыцыя.

Аб пачатках дзейнасці капэлы „Хутар” расказаў „Ніве” Ян Карповіч:

— Перад узнікненнем „Хутара” былі тут выканаўцы, калектывы, якія ігралі на вяселлях і забавах. Былі калектывы „Grodzianie”, „Druty”, „Filipy”. Іхні час кончыўся. Хлопцы пажаніліся і разышліся. Я застаўся пры доме культуры. Некаторых, хто асеў у Гарадку, я сумеў пазбіраць і з іх стварыць малы ансамблік: два акардэоны, скрыпка і гітара. На пачатку людзі прасілі нас іграць па хатах пры вогнішчы. Лёнік Тарасэвіч часта запрашаў нас да сябе на выставы ці ягоныя сустрэчы. Мы, аднак, мелі патрэбу, каб паказвацца шырэй. Трапілі мы весь, напрыклад, на агульнапольскі агляд у Быдгашчы — на „Сеніяраду”. Добра там паказаліся. Занялі другое месца. Цяпер іграем на ўсіх гмінных імпрэзах: на „Сяброўскай бяседзе”, „Дажынках” „Ночы Купалы” і на ўсіх павятовых аглядах беларускай песні. Няраз з поспехам выступалі на аглядзе акардэаністаў у Васількаве. Дзякуючы выданню Сцяпанам Копам зборніка гарадоцкіх песень з нотамі маем крыніцу, з якой карыстаемся цяпер у нашым рэпертуары. Да калектыву дулучыліся дзве дзяўчыны. Агулам нас у гурце сямёра. Яшчэ пры дырэктары Астапчуку нам у Мінску пашылі беларускія касцюмы. У планах маем выезд у Янаў і ў дом апекі ў Чараўках.

Спецыяльна на юбілей у Гарадок прыехаў калектыў „Верасы” з адлеглага Вілінава Мельніцкай гміны. Кіраўнік калектыву Леакадыя Саўчук сказала нам:

— Пазнаёміліся мы з „Асеннім лістом” на аглядзе беларускай песні ў Беластоку. Гэта вельмі сімпатычныя жанчыны. Нават не спадзяваліся, што атрымаем запрашэнне на іхны юбілей. Гэта для нас гонар. У мінулым годзе былі яны ў нас, сёлета — мы ў іх.

Дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі прамаўляў са сцэны:

— Фактычна, як кажа надпіс над сцэнай — Гарадок багаты песняй. Пры нашым ГЦК дзейнічае шэраг калектываў, якія гэтыя традыцыі развіваюць і мы гэтым вельмі ганарымся. Якраз гэтыя калектывы — соль нашай зямлі.

Юбіляраў хваліў войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша:

— Іхняя дзейнасць можа быць прыкладам выкарыстання вопыту і ўдзелу ў грамадскім жыцці дзеля развіцця культуры. Абодва калектывы не толькі аздабляюць сваёй актыўнай прысутнасцю нашыя лакальныя грамадска-культурныя мерапрыемствы, але годна прадстаўляюць і расслаўляюць гміну ў рэгіёне і ў Польшчы, што для нас вельмі важнае.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Мова душы

*З Уршулай Паўлоўскай — жыхаркай Ніжняй Сілезіі, прафесійнай турысткай і вялікай аматаркай царкоўнай музыкі я пазнаёмілася зусім выпадкова, у час гала-канцэрта XXXI Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2012”. Яна захапіла мяне сваёй уражлівасцю і адданасцю гэтай, здаецца не самай блізкай палякам, музыцы. Ужо дваццаць восьмы раз запар разам з сябрамі пераадолела васьмісоткіламетровую дыстанцыю Валбжых — Беласток чыгункай, каб папрысутнічаць у вялікім свяце царкоўнай музыкі. Радасцю ад гэтых сустрэч спадарыня Уршуля рашыла падзяліцца, між іншым, з чытачамі „Нівы”:*



— Я пачала наведваць фестываль царкоўнай музыкі як толькі даведалася пра яго існаванне. Прапусціла я толькі два першыя выпускі.

Калі у час адной з нашых турыстычных вандровак мы апынуліся на люблінскам аўтавакзале, з кустоў дайшоў да нас цудоўны спеў. З’ява была настолькі прыгожай, што я загадала групе маладых хлопцаў з рукзакамі пайсці яе следам. Гукавы след завёў нас у царкву па вуліцы Рускай. Там якраз маліўся хор Валодзі Валасюка, з якім мы пазнаёміліся і потым сустракаліся на гайнаўскім фестывалі. Можна сказаць, што мая любоў да царкоўных спеваў пачалася менавіта ў люблінскай царкве.

Жывучы на Сілезіі, я многа чула, між іншым ад сваіх бацькоў, пра атмасферу даўніх крэсаў. Ведаю, што там супольна адзначалі праваслаўныя, каталіцкія, а нават яўрэйскія святы. Падобнага характару ўспаміны глыбока ўпісаліся ў маё сэрца, таму на сваіх турыстычных шляхах цэркваў ніколі не мінаю.

У гэтым годзе на Беласточчыну я прыехала з сяброўкай, але бывала, што выпраўляліся мы групай у дзесяцьдванаццаць чалавек. Мы вельмі добра памятаем бацюшку Антонія Дзевятоўскага, яго шчырае прывітанне на пляцы перад гайнаўскім Свята-Троіцкім саборам, моцныя абдымкі і словы: „Мае дарагія госці з Валбжыха прыехалі!”. Ён у чалавеку бачыў перш за ўсё чалавека ў адцягненні ад канфесійнай прыналежнасці. Змог ён належным чынам ацаніць людзей, якія праехалі восемсот кіламетраў, каб паслухаць адзінай, непаўторнай, дасканалай прыгажосці царкоўнага спеву.

Не заўважаю значных праблем са словамі царкоўных малітваў, таму што яны добра ўспрымаюцца сэрцам і інтуіцыяй. Спевы на старажытнацаркоўнаславянскай ці ўкраінскай мовах разумею найлепш, хаця таксама не да канца. Румынскай і грэчаскай не ведаю, але прыгажосць, змешчаная ў царкоўнай музыцы, трапляе ў само сэрца, часта выклікаючы слёзы сапраўднага хвалявання. Не забуду сустрэчы з грузінамі ў час восьмага выпуску фестывалю. Дзесяцёх мужчын з Тбілісі як заспявалі... Потым, пасля гала-канцэрта, я ім падарыла дзесяць ружаў. Яны расплакаліся і я таксама. Вось якая сіла скрываецца ў мове душы.

У пазафестывальны час рэдка паяўляецца нагода да сустрэч з царкоўнай музыкай. Непадалёк Валбжыха знаходзіцца мясцовасць Сакалоўска (Sokołowsko), дзе ад нядаўня, бо ўсяго толькі дзесяць гадоў, існуе прыгожая, маленькая, адноўленая царкоўка, якую абслугоўвае Вроцлаўскі Кірыла-Мяфодзіеўскі прыход з хорам „Актоіх”. Ладзіцца ў нас таксама Фестываль трох культур, які аб’ядноўвае каталіцкіх, праваслаўных і яўрэйскіх спевакоў.

Фестываль царкоўнай музыкі гэта сапраўдная жамчужына на культурнай карце Польшчы. Але вельмі мяне расчараваў яго раскол. Зразумела, што ў сувязі з гэтым жыхары Беласточчыны карыстаюцца ўдвая большай колькасцю фестывальных выступленняў. Але дла нас, сілезцаў, каб ахапіць усё, што дзеецца ў Гайнаўцы і Беластоку ад пачатку да канца мяжуе з цудам. Гэта ж два тыдні з перапынкамі. Тут, у Беластоку, цудоўна спяваюць прафесіяналы, можна захапляцца самым вышэйшым узроўнем музычнай культуры, але мне асабіста не хапае атмасферы царкоўнага інтэр’ера. Калі б мы маглі слухаць спеваў менавіта ў храмах Гайнаўкі ці Беластока, наша душа перажыла б падвойную радасць, а фестываль быў бы намнога больш прыгожым. Бывае, мясцовыя здзіўляюцца, што мы мучымся дванаццаць гадзін у цягніку, каб пабыць на фестывалі. Але ж мы тут багацеем. Ні з чым не параўнаць узнагароды, душэўных дароў ад такой інтэнсіўнай сустрэчы з царкоўнай песняй. Тут мая душа сапраўды пачынае спяваць. Тут зараджаюся пазітыўнай энергіяй, якой хапае на ўвесь год і за гэта вялікае дзякуй усім харыстам, а перш за ўсё арганізатарам гэтага мерапрыемства.



Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

# У Ставішчах

Ставішчы — вёска немалая. Налічвае больш за сто гаспадарак. Многія пустуюць. Зараз пражывае тут 213 жыхароў. У асноўным — пенсіянеры. Самай старэйшай лічыцца 86-гадовая Вера Кашмалюк. Некалькі год таму арганізаваў я роварныя вандроўкі з Кузавы праз Ажарова, Вульку-Тэрахоўскую, Ставішчы, Полаўцы на пагранпераход Полаўцы — Пяшчатка (назад вяртаўся асфальтоўкай праз Чарому-Станцыю). Вуліца тады ў Ставішчах была да паловы асфальтаваная. На другой частцы залягаў калдобісты брук. Вясковы клуб культуры знаходзіўся ў жаласным стане. Такі ж від прадстаўляла злеўня малака (аказалася непрыдатнай, закрытая за дзесяцю замкамі). Гэтыя будоўлі ўзнiклі на грамадскіх пачатках у палове 1970-х гадоў, калі вёска квітнела. Людзі мелі тады працу, апрацоўвалі гаспадаркі. Буйна развівалася жывёлагадоўля. Амаль у кожнай сям’і была кароўка, а багацейшыя гаспадары трымалі іх цэлы статак. Паспрыяла гэтаму разлеглая прастора паш і сенажацей. На пункце скупкі тры рэзервуары штодзень запаўняліся высакаякаснай сыравінай. Малако давала сялянам прыбытак. Выкарыстоўваўся кожны лапік зямлі і пашы. Сяляне дбалі пра сваю маёмасць. І хоць зямля ў Ставішчах ненайлепшай якасці, давала плён. Быў рынак збыту для сельскагаспадарчых прадуктаў. З уваходам рыначнай эканомікі многае перамянілася. Заняпад чыгуначнай станцыі ў Чаромсе адмоўна паўплываў на лёс жыхароў Ставішчаў. Многія страцілі працу. Занепала жывёлагадоўля. Апусцелыя гаспадаркі сталі парастаць бур’янам. Так было тры гады таму. Калі загаварылі пра разбудову пагранперахода ў Полаўцах, зрадзілася надзея на змену аблічча Ставішчаў. Адсюль да дзяржаўнай мяжы рукой падаць. Умовай для пачатку інвестыцыі была пракладка санітарна-каналізацыйнай сеткі. Мела яна праходзіць з пагранперахода ў Чаромху. Але крутанулі ўбок і пакіравалі раўналежна да павятовай дарогі Ставішчы — Полаўцы. Такім чынам мадэрнізавалася вясковая вуліца ў Ставішчах. Было гэта ў 2010 годзе. Спачатку зруйнавалі стары брук і асфальтнае палатно, затым праклалі каналізацыйную сетку. З боку размясцілі бардзюры і тратуар. У тым жа годзе праводзіўся рамонт святліцы. Кошт інвестыцыі склаў суму 161 994,49 зл. Прытым пакарысталіся 55 тыс. злотых з еўрасаюзных сродкаў. Мадэрнізацыйныя работы на вуліцы ў Ставішчах завяршыліся пры канцы мінулага года. Па ўсёй даўжыні былі пакладзены два слаі асфальту. Зараз дарога хоць каціся! Кошт мінулагодняй інвестыцыі склаў суму 164 634 зл. з боку гміны і 83 538 зл. з павятовага бюджэту. Асвячэнне вясковага Клуба культуры (такая зараз афіцыйная назва святліцы) і мадэрнізаванай вуліцы адбылося ў пятніцу 18 траўня.

Мерапрыемства было назначана ў 17 гадзін. Стаяла сонечнае надвор’е. Карыстаючыся хвілінкай вольнага часу, накіраваўся я ў канец вёскі ў напрамку Полаўцаў. Як жа тут усё перамянілася за апошнія гады. Шыкарная асфальтоўка з новым тратуарам, памаляваныя дамы, платы з жалезнымі брамамі ствралі прыемны від. Да кожнай сядзібы вядзе пад’езд з „польбруку”. Не відаць пахіленых платоў і парослых бур’яном сядзіб на апусцелых гаспадарках. Задбалі пра гэта жыхары вёскі...

Побач святліцы сабралася шмат людзей. Столькі ж народу чакала ў зале. Арганізатары рашыліся правесці імпрэзу звонку будынка, на пляцоўцы. Мерапрыемства пачалося з паўгадзінным спазненнем. Першым узяў голас солтыс Яўген Смык, які, пазнаёміўшы публіку з праграмай мерапрыемства, перадаў голас войту Чаромхаўскай гміны Юрыю Шыкулу. Войт прывітаў гасцей: благачыннага Кляшчэлеўскага благачыння а. Мікалая Келбашэўскага, настаяцеля прыхода ў Касной а. Паўла Кананюка, настаяцеля прыхода ў Зубачах а. Рыгора Астапковіча, старшыню Рады павета Мікалая Міхалюка, намесніка каменданта Памежнай аховы ў Чаромсе Міраслава Смыка, каменданта Паліцыі Тамаша Вашкевіча, старшыню Рады гміны Надзею Суліму, старшыню радных, солтысаў і кіраўнікоў службовых адзінак гміннай адміністрацыі. Войт Юры Шыкула і а. Мікалай Келбашэўскі падзякавалі выканаўцам за акуратна і тэрмінова праведзеныя інвестыцыі і пажадалі, каб здадзеныя ў карыстанне аб’екты доўга служылі вясковай супольнасці. Затым наступіла цырымонія перарэзання традыцыйнай стужкі. Пасля госці з публікай перайшлі ў клуб, дзе святары адслужылі малебен і здзейснілі чын асвячэння.

У мастацкай частцы выступілі „Гілочка”, „Вульчанкі” і жанчыны з вёскі Чаромхі. Гадзінны канцэрт завяршыўся выступленнем Вольгі Раманчук з Кузавы і Надзеі Унучка з вёскі Чаромхі, якія праспявалі песню „Роза”. Аўдыторыя ўзнагароджвала выступаючых спевакоў бурнымі воплескамі. Пасля канцэрта солтыс Яўген Смык запрасіў прысутных на супольны пачастунак. Стравы падрыхтавалі мясцовыя гаспадыні. Мерапрыемства праходзіла пад патранатам Гміннага асяродка культуры і пры фінансавай падтрымцы Управы гміны.

Сяргей ЧЫГРЫН

# Англійскі даследчык выдаў кнігу пра беларускую літаратуру

**У Беластоку ў друкарні „Orthdruk" выйшла з друку тытанічная праца англійскага даследчыка беларускай літаратуры прафесара Лонданскага ўніверсітэта Арнольда Макміліна (Arnold McMillin) „Пісьменства ў халодным клімаце"*, прысвечаная беларускай літаратуры, пачынаючы з 1970-х гадоў да нашых дзён. Фаліянт налічвае 910 старонак і надрукаваны ён на беларускай мове.**




Падобнага даследавання я ў руках не трымаў. І, магчыма, гэта першая ў гісторыі нашай айчыннай літаратуры фундаментальная асабістая праца па вывучэнню беларускай літаратуры. Праца, над якою працавалі не калектыў аўтараў, а адзін чалавек. Хіба што да падобных можна аднесці даследаванні Яўхіма Карскага і Максіма Гарэцкага. Але ж даследаванне Яўхіма Карскага выйшла з друку на рускай мове. Ды і саступаюць даследаванні Карскага і Гарэцкага гэтай працы Макміліна. Праўда, будзем улічваць тое, што сто гадоў таму беларуская літаратура толькі распачынала свой шлях. Як казаў мне пры жыцці прафесар Алег Лойка, самая вялікая літаратура ў Еўропе — гэта ў палякаў, а потым — у нас. Цяпер я ўпэўніўся ў гэтым, калі азнаёміўся з кнігай Арнольда Макміліна. Дарэчы, кніга лонданскага прафесара на англійскай мове „Writing in a cold climate: belarusian literature from the 1970s to the present day", выйшла ў Вялікабрытаніі ў 2010 годзе. Цяпер яна пабачыла свет па-беларуску.

Кніга Арнольда Макміліна складаецца з 16 раздзелаў, а таксама з падзякі, скаротаў, прадмовы, уводзінаў, бібліяграфіі і паказальніка імёнаў, якіх налічваецца больш за 700.

Вядома ж, гэтая даследчая праца даволі суб'ектыўная. Сярод вялікай кагорты таленавітых і менш таленавітых літаратараў Беларусі, многія прозвішчы пісьменнікаў нават і не згадваюцца, а некаторым досыць зашмат адведзена ўвагі і месца. Ва ўводзінах аўтар паведаміў, што „на адносна раннім этапе стварэння кнігі са мной нечакана звязаўся адзін добра вядомы паэт, з якім я ніколі раней не быў знаёмы, і сказаў, што я пішу не пра тых. Не маючы ніякага ўяўлення пра тое, якімі крытэрыямі ён кіраваўся ці што яму вядома пра мае ўласныя, я не звярнуў увагі на гэтае папярэджанне. Але цяпер, напісаўшы пра шмат паэтаў, пісьменнікаў і драматургаў, я разумею: абмінуўшы асобных, якіх лепш не згадваць, я таксама прапусціў некаторых вартых быць уключанымі ў гэту кнігу".

Першы раздзел сваёй працы даследчык прысвяціў Міхасю Стральцову і празаікам старэйшага пакалення, якія пісалі і пішуць пра вёску і горад, пра Чарнобыльскую катастрофу, пра тых, у каго ў творах прысутнічаюць прыгоды і фантастыка.

Паэту на ўсе часы — Рыгору Барадуліну адрасаваны другі раздзел кнігі, а ў трэцім раздзеле аўтар вядзе размову пра творчасць Леаніда Галубовіча, Міколы Мятліцкага, Кастуся Жука, Раісы Баравіковай, Сяргея Законнікава, Генадзя Пашкова, Сяргея Панізьніка, Фелікса Баторына, Казіміра Камейшы, Галіны Каржанеўскай, Соф'і Шах, Міхася Башлакова і дзесяткі іншых літаратараў. „Шматбаковы паэтычны геній Рыгора Барадуліна — несумненна, выбітная з'ява. Але і шмат якія іншыя паэты выяўляюць сапраўдны талент, які немагчыма адмаўляць", — падкрэслівае Арнольд Макмілін.

Асобныя раздзелы кнігі аўтар адрасаваў „Тутэйшым" і „Бум-Бам-Літу". Усіх, хто ўваходзіў і ўваходзіць у гэтыя літаратурныя рухі, аўтар згадвае ў кнізе. „Тутэйшыя" і іх сучаснікі займаюць цэнтральнае месца ў кнізе. „Яны, — як піша даследчык, — былі сведкамі перамен, выкліканых распадам савецкай улады, і актыўна на іх рэагавалі. У наступныя дзесяцігоддзі яны сутыкнуліся з не менш складанымі праблемамі і задачамі. Разнастайнасць іх творчасці служыць напамінам пра жыццяздольнасць і нязменную магутнасць культуры як апірышча нацыянальна свядомай Беларусі".

Пры ўсёй значнасці таварыства „Тутэйшых" напрыканцы 1980-х гадоў да яго належалі не ўсе адметныя аўтары. Таму адзін з раздзелаў прысвечаны шматлікім прадстаўнікам сярэдняга пакалення беларускіх літаратараў. А гэта — Алесь Пісьмянкоў з яго арыгінальнай прастатой у паэзіі, Леанід Дранько-Майсюк са сваёй лірыкай кахання, Віктар Шніп — паэт „прыроднай і мілоснай лірыкі", шматбаковая асоба Міхась Скобла, Людка Сільнова з верай ў Бога ў паэзіі, Галіна Тварановіч-Сеўрук — аўтарка, якая „не абмежавала сябе толькі навуковым светам", таленавітая паэтка-навукоўца Ірына Багдановіч, Ала Канапелька — паэтка „музычных, светланосных вершаў", філасофскі паэт Андрэй Гуцаў, гарадскія паэты Мікола Касцюкевіч і Серж Мінскевіч, паэт-бард Эдуард Акулін, экалагічны празаік Уладзімір Ягоўдзік, пісьменніца вясковай прозы Хрысціна Лялько, празаік „вядзьмарства і сюррэалізму" Анатоль Казлоў, празаік, навуковец і крытык Алесь Ветах, радыкальны аўтар Ігар Сідарук і г.д., г.д. Усім ім прысвечаны асобныя артыкулы ў фаліянце Арнольда Макміліна.

З цікавасцю і грунтоўнымі аналізамі твораў распавядае лонданскі прафесар пра праваакцыйнага постмадэрніста Адама Глобуса, пра паэта спакутаванай душы Анатоля Сыса, пра творцу з рэдкім літаратурным уяўленнем Уладзіміра Някляева, пра першапраходца ў беларускай гістарычнай літаратуры Уладзіміра Арлова, пра складанага паэта Алеся Разанава, пра паэтаў-авангардыстаў Арцёма Кавалеўскага і Андрэя Бурсава, пра Андрэя Хадановіча і чатырох паэтак будучыні — Вальжыну Морт, Вольгу Гапееву, Валерыю Куставу і Віку Трэнас...

Кніга Арнольда Макміліна „Пісьменства ў халодным клімаце" — гэта своеасаблівая энцыклапедыя сённяшняга літаратурнага жыцця Беларусі. Даследаванне сур'ёзнае і яно вылучаецца тонкасцю назіранняў, уменнем разглядаць літаратурныя з'явы на шырокім гістарычным фоне і даходлівасцю выкладу. І з гэтым трэба пагадзіцца.

* Арнольд Макмілін, *Пісьменства ў халодным клімаце. Беларуская літаратура ад 70-х гг. XX ст. да нашых дзён*, Беласток 2011, 910 с.

# http://dumki.org




Здольнасць своечасова прывесці трапную цытату заўсёды сведчыла аб кемлівасці чалавека, яго ўменні даказаць слушнасць сваіх меркаванняў. Часцей за ўсё людзі ў размовах, каб абгрунтаваць свае думкі, выкарыстоўваюць разнастайныя прымаўкі, пагаворкі альбо так званыя „крылатыя выразы". Адны і тыя ж „крылатыя выразы" прысутнічаюць у розных мовах, бо прыйшлі ў іх тады, калі адукаваныя людзі маглі чытаць толькі па-лацінску ці па-грэчаску — іншыя мовы яшчэ не мелі алфавіту. З таго для кожнага еўрапейца знаёмае: „Прыйшоў, убачыў, перамог" альбо „Ісціна ў віне". Але кожны народ мае і ўласныя падобныя цытаты. Беларусы тут не выключэнне, і адным са сведчанняў таго з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які называецца „Думкі".

Месяцца даны неардынарны сайт па адрасе **http://dumki.org** і мае даволі простую будову. Уверсе выяўлення, акрамя назвы партала, знаходзяцца элементы беларускага арнамента і дэвіз сайта: „Вялікія словы на вялікай мове!". Ніжэй ідуць выйсці да нешматлікіх старонак, сярод якіх найбольш цікавымі падаюцца „Лепшыя цытаты", „Апошнія цытаты" і „Аўтары". На галоўнай старонцы, якая адначасова з'яўляецца і першай, месяцца некаторыя „крылатыя выразы" з першых дзвюх згаданых і нейкія „выпадковыя цытаты", якім чамусьці не аддадзена асобная рубрыка.

Сайт настолькі просты, што аўтары нават не паклапаціліся яго нейкім чынам прэзентаваць і абазначыць уласна сябе. Магчыма, яны мяркуюць, што карыстальнікам і так будзе ўсё зразумела. Па вялікім рахунку, сапраўды ўсё зразумела, незразумела толькі хто і з якой мэтай стварыў даны сайт.

Што ж тычыцца зместу вэб-старонкі, то, каб яго ацаніць, варта напачатку зазірнуць на старонку „Лепшыя цытаты". Там мы зможам прачытаць „крылатыя выразы" вядомых беларусаў. „Кожнаму наканавана прайсці свой шлях да свабоды асобна" — гэтыя словы Васіля Быкава лічацца найлепшай цытатай з усіх на сайце. Найлепшай — бо побач з ёй лічыльнік пададзеных за цытату галасоў. У даным выпадку за словы Быкава прагаласавала найбольшая колькасць карыстальнікаў, што зазірнулі калісьці на „Думкі".

Сярод іншых найлепшых беларускіх выказванняў — „У прававой дзяржаве павінен кіраваць закон, а не асоба" (Леў Сапега), „Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця на вышыню нашых магіл" (Кастусь Каліноўскі), „Багацее не той, хто шмат працуе, а той, хто ўмее гаспадарыць" (Зянон Пазьняк).

Рубрыка „Апошнія цытаты", пэўна, змяшчае тыя, што былі размешчаны на сайце не так даўно. Праўда, калі менавіта іх размясцілі — невядома, бо на сайце няма аніводнай даты. З большага тыя цытаты маюць адзін голас альбо ўвогуле ніводнага голасу.

У „Аўтарах" мы знойдзем выявы ўсіх, чые словы згадваюцца ў „Думках". Сярод іх як даўно пайшоўшыя ў лепшы свет гістарычныя постаці, напрыклад, Адам Міцкевіч, Максім Багдановіч, Францішак Скарына, так і нашы сучаснікі — Валянцін Акудовіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў.

Ну, а калі ў каго з наведвальнікаў ёсць уласная цытата, якой ён хоча падзяліцца з астатнімі, то гэта можна зрабіць, скарыстаўшыся старонкай „Даслаць цытату на сайт".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# БЕЛАРУСІ Скарбы

### Кладкі і Масты

Кладкі і масты — гэта тыя элементы, якія заўсёды звязваюць два берагі, праткладзены альбо праз невялічкія ручаіны, альбо праз шырокія паўнаводныя рэкі. Што датычыць кладак і масткоў, то беларускі фальклор літаральна насычаны вобразамі гэтых найпрасцейшых канструктыўным рашэннем пераправаў. Успомнім хоць бы славутую народную песню з радкамі: „Кладачка тоненька, вада халодненька, а я малодзенька". Альбо жартоўны твор „Сяброў": „Перайшоў я кладку, трэба ж і другую, не змагу данесці — як не пацалую". Кладкі і масточкі ў літаратуры сапраўды авеяныя таямнічасцю і асаблівай рамантычнасцю. Мне вельмі шкада сучасных гарадскіх дзяцей: яны не маюць магчымасці прабірацца праз гушчар кустоўя ля рэчак, сачыць за бабрамі і іх працай, ладзіць самастойна пераправы і кладачкі з камянёў і галінак дрэў праз водныя перашкоды, з трымценнем і пэўным страхам праз іх перабірацца. У нашым маленстве ўсё гэта было, адклалася ў памяці асаблівай сентыментальнасцю.

Беларусь багатая на шматлікія рэкі, таму здавён тут стаяла праблема надводных камунікацый. Найбольш старажытныя драўляныя масты паўсталі вакол важных стратэгічных пунктаў — такіх як Полацк, Тураў, Пінск. З цягам часу яны ўскладняліся, пашыраліся, рабіліся больш трывалымі. Істотнае развіццё майстэрства будавання мастоў і пераправаў на нашых землях адбылося пры кіраванні караля Стэфана Баторыя, калі было шмат вайсковых паходаў. А ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзяў у Беларусі ўжо навучыліся будаваць масты на стагоддзі. Тут можна згадаць знакамітую гравюру Тамаша Макоўскага, дзе выяўлены стары мост у Гародні. Гэты мост, даўжынёй больш ста метраў, неаднаразова разбураўся ў войны, паводкі і крыгаломы, а пасля аднаўляўся. Зусім нядаўна прайшла чарговая рэканструкцыя, якая істотна яго пашырыла. У Гародні зараз тры масты праз Нёман, але пільна патрэбен яшчэ адзін. Ёсць у горадзе і цікавы мост, які здавён злучаў Стары і Новы замкі. Пад ім якраз „Сходы закаханых" — улюбёнае месца многіх гараджан. З найбольш атракцыйных і маляўнічых мастоў у нашым памежным рэгіёне мне згадваецца мост у Станьчыках на Сувальшчыне — хто там быў, мяне зразумее.

У Беларусі няма такіх мудрагелістых канструкцый як, прыкладам, у Нідэрландах, дзе можна спаткаць геніяльныя шэдэўры праектнай інжынерскай думкі. Але і ў нас ёсць мост, якім можна ганарыцца і па-сапраўднаму вабіць турыстаў. Гэта высокі падвясны мост праз Нёман у аднайменным горадзе Масты на Гарадзеншчыне. Аналагаў асабіста мне бачыць не даводзілася нідзе. Перайсці яго адважыцца нават не кожны падарожнік, хоць канструкцыя мае дастатковую трываласць. Мост прыдатны не толькі для пешаходаў, пасля яго істотнага ўмацавання і рамонту праз яго могуць пераходзіць і людзі з роварамі і матацыкламі. А наўкола дзівосная маляўнічасць вялікай ракі і прынёманскіх берагоў. Горад Масты ўвогуле апраўдвае сваю назву, даючы нам прыклады рознага кшталту мастоў.

Апошнім часам з'явілася мода на парэнчах мастоў вешаць замкі. Сюды прыходзяць маладыя пары, каб у дзень свайго вяселля зафіксаваць моц шлюбу такім вось сімвалічным спосабам. Такія масты можна пабачыць у Ваўкавыску, Полацку, іншых гарадах.

Масты створаны злучаць, яднаць, дапамагаць людзям. І няхай яны застаюцца надзейнымі і трывалымі!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дзень маці


Спевакам падыгрываў Сцяпан Копа

26 траўня гурток Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе арганізаваў цыклічную імпрэзу з нагоды Дня маці. У мерапрыемстве ўдзельнічалі войт гміны Юры Шыкула, намеснік старшыні Рады гміны Вячаслаў Барташэвіч, настаяцель Чаромхаўскага прыхода а. Юры Пліс і лідар прафсаюзнай арганізацыі Юзаф Дубковіч. Зацікаўленне сёлетняй імпрэзай не было вялікае. Шмат вольнага месца заставалася пры сталах. Адсутнічалі „Вульчанкі" з Вулькі-Тэрахоўскай, заўсёднікі застолля з Кузавы ды з Чаромхі-Станцыі. Не падвялі адно пявунні з вёскі Чаромхі, пенсіянеры з Бабровкі і Ставішчаў. Афіцыйная частка зводзілася да выступленняў прадстаўнікоў Гміннага самаўрада і а. Юрыя Пліса. Прамовы абмяжоўваліся да святочных віншаванняў і пажаданняў для паважаных маці. Пасля ўдзельнікі сустрэчы авацыйна, пад гукі гармоніка Сцяпана Копы, праспявалі традыцыйныя „Многае лета" і „Сто лят". Затым пачаўся пачастунак, які папярэдзіла малітва. Айцец Юры паблаславіў стравы на сталах.

Нягледзячы на абмежаваную колькасць удзельнікаў, у зале царыла сяброўская атмасфера. Задбалі пра гэта самі ўдзельнікі. Да танцаў падыгрываў Сцяпан Копа. У перапынках грымела музыка дыска-пола з беларускімі і польскімі шлягерамі. Не ўсім, зразумела, гэта падабалася. Невялічкая групка чарамшан дэманстратыўна пакінула залу. Але не выклікала гэта закалоту сярод удзельнікаў імпрэзы. Апошнія весела гулялі і спявалі. Акампаніраваў ім нястомны Сцяпан Копа.

Уладзімір СІДАРУК

# Дзівосныя нападкі

Што і раз беларусаў Падляшша сустракаюць дзівосныя нападкі з боку нейкіх арганізаваных груповак. Варожых дзеянняў у наш адрас шмат. Апошнім часам знішчаны быў праваслаўны скіт айца Гаўрыіла ў Адрынках, замаляваныя польска-беларускія ўказальнікі ў Арлянскай гміне.

Беларусы жывуць на Беласточчыне спрадвеку. Мы ў сябе. І вельмі прыкра, што водзяцца ў нас такія адшчапенцы, дзікуны, бязбожнікі, якія варожа ставяцца да нашай нацыі. За асобнямі з нячыстацй душою і хворымі думкамі трэба наглядаць, бо яны могуць з'явіцца ўсюды. Іх дзейнасць гэта не хуліганская вылазка, толькі злачынства.

Максім ДРОЗД

# Калі пачаў самастойна гаспадарыць

Былі гэта шасцідзесятыя гады. Бацька кажа мне:

— Сыну, пара мне з мамкай у адпачынак. Мы ўжо старыя, хворыя, працаваць нам цяжка. І так усё жыццё гаспадарку абраблялі. Пара адпачыць, лягчэй пажыць. А ты, як не пайшоў вучыцца далей, займай нашае месца і пачынай сам гаспадарыць. А мы колькі зможам, дык дапаможам. Цяпер добра, такім як мы рэнту плаціць сталі. Хаця гэта нямнога, аднак кожны грош не памяшае. Толькі гаспадарку трэба на дзяцей перапісаць, а ў каго іх няма — дзяржаве перадаць.

— Крыху шкада, — азвалася маці, — сваё другім аддаваць. Мы яе цэлы век сваім потам арашалі. І якім трудом яе набывалі. Ты бацьку згані, як цэлы час старэйся, зарабляў грошы. І усё ў гаспадарку, каб свой кавалак зямлі мець, каб было чым сям'ю пракарміць, каб у чужых парабкам не быць. І так нам з гаспадаркай, здаецца, удалося, хаця ў жыцці ўсякавата бывала. Усё ўручную рабіць трэба было. Не скажаш, бацьку, што лёгка было здабываць кавалак хлеба. Праўду казаў адзін знаёмы дзядуля: гаспадарка гэта клапатарка. І штораз цяжэй было, калі Гасподзь дзяцей паслаў. Быў гэта дадатковы выдатак, а двое ж іх у нашай сям'і было. А калі ў школу давялося пасылаць, то неаднойчы абыходзілася без скваркі. То на вопратку няма, то на сшыткі не хапае. Хаця ў жыцці не прапівалі, усё грош да граша складалі. Усё дахаты, для дзяцей. Думаючы адно, што калісь будзе багацей, тады як дзеткі дарастуць, з дому ў свет пойдуць.

Неаднойчы маці так разважала. А бацька ёй пярэчыў, пытаў:

— Навошта дзяцей вучыць? Настаўнікамі і так не стануць.

У той час настаўнік быў на вёсцы вялікай шышкай. Паважалі яго, шанавалі. І кепскага слова аб ім не сказалі. І ў знак пашаны першымі шапку перад ім скідалі. Так нас бацькі тады навучылі.

Я закончыў завочны тэхнікум сельскай гаспадаркі, а сястра матуру ў агульнаадукацыйнай школе. І на тым наша навука завяршылася. А веды былі і ахвота да навукі. І так усё па старых каляінах пайшло. Панамі жыць не прыйшлося; відаць пара нам на гэта не прыйшла. Сястра выйшла замуж, я ў салдаты пайшоў. А з войска вярнуўся проста на гаспадарку. Ажаніўся і як рыба аб лёд біўся. Усяго бракавала, на ўсё грошай не хапала. Дзякуй Богу, жонка з працавітай сям'і была, ва ўсім мне дапамагала, вельмі пра гаспадарку дбала. Пачалі кароў гадаваць, малако ў цане было. Кантрактавалі што толькі ўдалося. Памалу грошы збіралі і штораз лепш нам жылося. Неўзабаве трактар купілі, толькі купіць яго было складана. Не злічыць, колькі разоў мы да гмінных улад хадзілі; не з пустымі рукамі, вядома. І ў канцы дазвол на пакупку трактара атрымалі. А цяпер молім Бога, каб той час не вярнуўся, бо нават за пакупкай дробнай рэчы трэба было хадзіць да ўлад і прасіць дазволу.

З вялікім трудом усе машыны для гаспадаркі набылі. Працаваць стала лягчэй, толькі ненадоўга. Другая бяда завітала, хвароба да нас прычапілася, паказала нам сваю сілу. І зноў цяжка жыць стала.

Сын наш у Беласток вучыцца пайшоў. І неўзабаве знайшоў дзяўчыну. Абяцаў нам, што часта дамоў будзе прыязджаць, у гаспадарцы нам дапамагаць. З першых дзён так і было, а пасля ўсё пайшло па-старому. І хвароба стала сваё рабіць. Здароўя не было, а рабіць было трэба. На канец гаспадарку давялося сыну пераняць. Толькі карысці ад гэтага мала. Ён у Беластоку жыве і працуе, сям'ю сваю мае. Кватэру яму купілі. А ён, як усе, на жыццё і на цяперашні час наракае. А нас гэта цешыць, што ўсётакі сыну лягчэй жыць. Не будзе калупаца ў зямлі. Бо мы да чаго дажылі? Заўсёды недастаткі. І на руках мазалі.

Грыша МАРОЗ

# Адгаданка

1. белае крышталічнае рэчыва з рэзкім пахам для барацьбы з молю, 2. вадкасць з лейкацытамі і эрытрацытамі, 3. салёная прыправа ў ежу, 4. кусок аўчыны, 5. эпічная песня пра герояў і іх подзвігі, 6. сын Дэдала, 7. карыбская дзяржава між Гватэмалай і Мексікай, 8. чыгуначны вузел за захадзе Бранскай вобласці, 9. раённы горад на ўсходзе Гарадзеншчыны, 10. „кірылічны" манарх, 11. сімвал хрысціянства, 12. мястэчка на поўначы Ваўкавыскага раёна, 13. Калумбаў кантынент, 14. конскі злакавы ласунак.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | | | | | 2 | |
| | 3 | 4 | | | | | | 5 | | | | | |
| | | | | | 6 | 7 | | | | | 8 | | |
| | | | | | 9 | | | | 10 | | | | |
| | | 11 | | | 12 | | | | 13 | | | | 14 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — фразу Аляксандра Лукашэнкі.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 19 нумара**

Дывізія, е, ідыш, рог, Уй, шоў, язык, Якуція.

Рашэнне: **У дзяцей шырокія вушы і доўгія языкі**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін Вялікіх і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 10.06 — 16.06

**(22.03. — 20.04.)** Лёгка можна будзе цябе ашукаць, нават абакрасці. Добра хавай каштоўнасці. Твае капіталы могуць цяпер выразна ўзрасці. На працы, у справах і бізнесе чакаюць цябе прыемныя нечаканасці. Узмацняй супрацоўніцтва і падмацоўвай свой аўтарытэт. Будзь асцярожны з новай інфармацыяй і не прымай раптоўных рашэнняў. Завяршы галоўныя справы.

**(21.04. — 21.05.)** Пільнуй свае суставы. Увесь тыдзень маеш поспех у другога полу. Для цябе і тваіх блізкіх адкрыюцца добрыя спрыяльныя перспектывы. Не турбуйся непрыемнасцямі — бясследна прападуць. Найбольш часу праводзь з раднёй. З 14 (да 18.08.) горш; будзеш прымушаны адмовіцца ад некаторых планаў.

**(22.05. — 22.06.)** З 10 да 14.06. асцярожна адносся да розных нагод падзарабіць. З 11.06. моцна паправіцца твой настрой і будзе яшчэ лепшая форма. Усё ж збегай да лекара. Прыцягнеш дабрабыт і шчасце, здзейсніш мару. Ды 10-14.06. будзеш прымушаны дапрацаваць шмат дэталяў, якія здаваліся быць малаважнымі. У суботу не сядай у чырвоны самаход!

**(23.06. — 23.07.)** Пакуль абмяжуй кампанейскія кантакты, больш адпачывай. 10-13.06. некаторыя справы ўцякуць табе з-пад кантролю. Праяўленне нядобрай энергетыкі можа выклікаць хаос і напругу ў хаце. Пільнуйся ад агню і электратоку. У панядзелак не дамаўляйся наконт жылля. У сераду лепш не кантактуйся з прадстаўнікамі ўлад.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш выбрацца на кваліфікацыйную размову наконт працы. Твае сілы — невычэрпныя! Будзеш добра сарганізаваны. Добры час разгарнуць бізнес, афармляння складаных спраў. Завяршы асноўнае. Будзь асцярожны з электрапрыборамі. З чацвярга на пятніцу спі ў сваёй пасцелі!

**(24.08. — 23.09.)** 9-14.06. прадбачваюцца фінансавыя праблемы: не абяцай сабе зашмат па быццам бы пэўных інвестыцыях. Энергія сусвету падтрымае твае планы па перамене спосабу жыцця. Пазбудзься непатрэбшчыны і скарачі кантакты з людзьмі, якія ў тваё жыццё ўносяць хаос. У аўторак можаш добра набыць дом ці ўчастак.

**(24.09. — 23.10.)** Ты цяпер вельмі добры медыятар і дарадчык. Тыдзень можа пачацца з канфлікту. Можаш адмяніць планы і больш увагі аддаць свайму здароўю. Асцярожна прымяняй касметычныя працэдуры; не рабі новай прычоскі. У пятніцу могуць чакаць цябе страты, калі аддасі свае фінансавыя справы ў рукі іншых.

**(24.10. — 22.11.)** 10-14.06. — нагоды пахваліцца ўмеласцямі і талентамі. Выклічаш ураджанне і атрымаеш цікавую прапанову. Ды ў той самы час зоркі падкапаюць тваю самаўпэўненасць і сцягнуць на цябе крытыку. Схочацца табе памагчы іншым, ды будзь памяркоўным, бо сядуць табе на шыю. Не напружвайся фізічна, не рабі больш чым трэба і не выказвайся пра невядомае табе.

**(23.11. — 22.12.)** Станеш яшчэ больш адкрыты, талковы, зазззяеш інтэлігентнасцю. Лёгка пераканаеш іншых да сваіх планаў. Маеш цяпер удачы ў вынаходствах. Асабліва ўдала ў прадпрымальнікаў і гандляроў.

**(23.12. — 20.01.)** Мяркуй, з кім гаворыш. А сам ты цяпер — выдатны аратар! Шэф цябе дацэніць, сям'я пакажа, як ёй на табе залежыць, а ад сяброў будзеш мець мілы сюрпрыз. Твае пачуцці могуць узяць верх над логікай. Можаш хадайнічаць за лепшую працу. Хоць панядзелак — дзень не вельмі добры для кантактаў. Асабліва засяроджвайся ў чацвер. У суботу не купляй посуду.

**(21.01. — 19.02.)** Адкрыюцца перад табою новыя магчымасці і перавагі, павялічацца твае даходы. Будзеш удзельнічаць у грамадскіх і службовых сустрэчах. Трымайся ўбаку ад канфліктаў. Асабліва перад 13.06. не развешвай языка!

**(20.02. — 21.03.)** Да 11.06. маеш гарантаваны поспех у кожнай галіне. Маеш шанц знайсці кагосьці важнага ў пачуццях. Аналізуй усё, што адбываецца з табою. Можа трэба будзе памяняць штосьці ў корані. У панядзелак не давай хутка згоды ў важнай справе. У сераду не выноcь смецця з хаты, бо распаўсюдзіш плёткі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Засакрэчаны помнік даўніны

Па шашы ад Саколкі цераз Дуброву, амаль аж да самой Бобры, цягнецца просты ланцуг так жа простых вёсак-вуліцовак. У іх ліку Бярвіха і Масціха. На першы погляд здавалася б, што назвы гэтых дзвюх вёсак на свой лад „сваяцкія”, што назвы гэтыя выводзяцца ад нейкіх дзвюх жанчын, накшталт краўчыхі ці Васіліхі...

Але гэта не так, бо этымалогію іх разгадаў быў Мікола Гайдук у 48-м нумары „Нівы” з 1978 года: „Вучоныя мяркуюць, што гэтае бясконцае сяло — вынік славутай „Уставы на валокі” з 1557 года, якую вельмі паслядоўна правялі па загаду і пад пільным наглядам самой каралевы польскай і вялікай княгіні літоўскай Боны землямеры ў „гаспадарскіх” маёмасцях Вялікага Княства Літоўскага. Параскіданыя ў бязладдзі на захад ад рэчкі Сідры сялянскія паселішчы загадалі яны сцягнуць і паставіць паабапал гасцінца, што ўжо ў той час быў пракладзены ўскрай тадышніх Кузніцкай і Навадворскай пушчаў па градзе надрэчных пагоркаў. Для вёсак выразалі ў адным кавалку тры палеткі слабенькай, а побач пад вяліканяжацкі — „гаспадарскі” фальваракподварак — самай лепшай зямлі, лугу, пашы і лесу. Нязгоршая валока праднаначалася тут жа для царквы або касцёла. І так з таго часу сядзяць на надсідранскіх пагорках, з Асмалоўшчыны пачынаючы і на Сякерцы канчаючы, некалькі частак гэтага сяла-ланцуга. Адна з гэтых частак завецца Бярвіха. Таямнічая, дзівосная назва! Але толькі на першы погляд. Аказваецца, якраз праз яе працякае з паўднёвага захаду на паўночны ўсход, перасякаючы яе і кіруючыся ў бок рэчкі Сідры, пакручастая рачулка Бярвіха. Ад назвы рэчкі займела назву і частка сяла. Але гэта, вядома, не выясняе таямніцы назвы, хоць значна аблягчае яе разгадку. А гэта таму, што „бервай” на беларускіх землях называюць „кладку з бярвенняў ці тоўстых жардзін на гразкім месцы”, а рэчка Бярвенка знаходзіцца на суседняй Гродзеншчыне (бярэ свой пачатак каля м. Бершты). Такім чынам назва „Бярвіха” калісьці абазначала гразкую рэчку з многімі на ёй кладкамі”. Столькі Мікола Гайдук пра Бярвіху. Але ж і вёску Масціха перасякае таксама рэчка, Масціха, на якой, трэба здагадвацца, была не кладка, а больш сур’ёзны мост...

Але ў Бярвісе не толькі назва вёскі выклікае зацікаўленне, ёсць там і цалкам фізічны аб’ект, таксама загадкавы. Зноў слова Міколу Гайдуку: „Якраз каля моста цераз гэтую самую Бярвіху (...) стаіць кованы ў жалезе прыдарожны крыж, асаджаны ў аграмадным камені з... дзіўным вырэзбленым надпісам! Надпіс на польскай мове, няпоўны, фрагментарны, але ёсць у пачатку выразная дата: 1655 год, далей жа ідуць паасобныя словы: „маскаль”, „літва”, „мур вячысты” і некалькі іншых, цяжкіх для зразумення. Дзіўна, праўда? Але даволі заглянуць у гісторыю, каб усё высветлілася. Рускія войскі на чале з ваяводам Чаркаскім і украінскія пад кіраўніцтвам атамана Залатарэнкі ў жніўні 1655 года ўзялі Коўна і Гродна. Відаць, імення тут, на балоцістых берагах Бярвіхі, адбылася адна з іх бітваў. Хоць потым тутэйшыя землі і патанулі ў крывавых падзеях „шведскага патопу”, аднак памяць аб бітве на рацэ Бярвісе не загінула”.

Мікола Гайдук час ад часу любіў надзець чытачу каляровыя акуляры. На згаданым валуне найбольш кідаецца ў вочы менавіта тая дата і надпіс: „Moskal Litwę splondrował, złamawszy mir wieczny”. І гэта зусім не дзіўна. „Вечны”, Паляндаўскі мір быў заключаны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай у 1634 годзе, а ўжо дваццаць гадоў пазней цар Аляксей Міхайлавіч парваў яго і яговыя войскі ўварваліся ў непрыгатаванае да вайны Вялікае Княства Літоўскае. Нападнікі паводзілі сябе вельмі люта. Марцэлі Косман („Historia Białorusi”): „Połock i kilka innych miast na północy padły bez walki, po trzech miesiącach oblężenia musiał się poddać — z braku żywności — Witebsk, a dzielnych obrońców spotkał okrutny los. Ci, którzy ocaleli i zostali wywiezieni do Kazania, donosili: „niemało braci naszej szlachty, mieszczan, pospólstwa, żołnierstwa, dragonów, niewiast i dziatek małych u piersi matek będących, dziadów, bab w szpitalach będących bez żadnego miłosierdzia, miasto opanowawszy, wysiekli i wyścinali”. Po kilkunastu latach ludność liczyła zaledwie 30% stanu sprzed tych wydarzeń. Dnia 22 lipca [1654 г. — А. В.] został zdobyty Mścisław. Ludność, ocalała podczas walk, znalazła śmierć po ich zakończeniu albo poszła w niewolę”. Мінск быў „вызвалены” 3 ліпеня 1655 года [і... 289 гадоў пазней; гэтая дата зараз дзяржаўным святам у Беларусі].


Гістарычны валун у Бярвісе

Генадзь Сагановіч („Невядомая вайна”): „Пасля захопу Менска адкрыўся просты шлях да сталіцы Княства. (...) 22 ліпеня цар быў у Маладэчне, а 24-га перанёс сваю стаўку яшчэ бліжэй да Вільні — у Смаргоні. (...) 8 жніўня войскі Чаркаскага ды Залатарэнкі разам пайшлі на штурм Вільні. (...) Адразу ж на вулічным бруку сталі чыніцца масавыя забойствы, а на рынку дайшло да сапраўднае бітвы з мяшчанамі. Натоўпы віленчукоў кінуліся ўцякаць да ракі, але там мноства людзей было ці пабіта, ці патоплена. (...) Асаблівай прынадай для казакаў і царскіх ратнікаў былі віленскія храмы, а дакладней — іхняе начынне, званы, упрыгажэнні. Уначы ўвесь горад зырка палаў, а новыя гаспадары шнырылі ў пошуках спажывы. (...) Вільня гарэла 17 дзён. (...) Аляксей Міхайлавіч уязджаў у распнутую Вільню 9 жніўня...”.


Хата ў Бярвісе

Васіль Верх („Царствование Царя Алексея Михайловича”, 1831): „Въ понедельникъ 9 августа (30 июля) 1655 года произходилъ торжественный въездъ въ Вильну. Съ Царемъ въехало въ городъ 60 каретъ; но въ средине были три кареты, покрытыя голубымъ и краснымъ сукномъ, изъ коихъ каждая запряжена 12ю красивыми лошадьми. Кучера были въ весьма высокихъ черныхъ шапкахъ и голубыхъ кафтанахъ съ синими отворотами. За симъ ехалъ Царь въ богатой Французской карете, убранной внутри коричневымъ бархатомъ. У кучеровъ были также высокия шапки, но кафтаны коричневыя с желтымъ. На Царе была высокая шапка, въ девять рядовъ жемчуговъ унизанная, подле него сиделъ седой старичокъ. (...) Когда царъ вышелъ изъ кареты, то старичокъ шелъ впереди. После обеда ездилъ Царь въ Рускую церковъ и приказалъ Золоторенку занять Радивиловъ замокъ. 10 августа (31 июля) сожгли все мечети, Католическия и Лютеранския кирхи. Пребывание Москвитянъ поселило во всехъ страхъ и ужасъ. Все желали чтобы Шведы скорее заняли страну сию. (...) Въ одномъ Немецкомъ календаре (...) сказано, что при взятии Вильны убито 15,000 человекъ и что Россияне увезли оттуда серебряный алтарь и гробъ Св. Казимира, который, бывъ сделанъ изъ чистаго серебра, весилъ 3,000 фунтовъ. Въ отысканной мною рукописи жалуются также на Россиянъ, что они, опустоша Вильну, забрали тамъ великия сокровища и отослали множество пленниковъ обоего пола въ Москву”. Месяцам пазней, 8 верасня 1655 года, царскія войскі занялі Гародню.

Позняй восенню маскоўскія войскі рушылі на Берасце. Генадзь Сагановіч: „Далей пайшлі падзяліўшыся: меншыя сілы праз Адэльск, Крынкі — да Заблудава, а галоўныя рушылі праз Нараў і Орлю, мінулі Высокае і 23 лістапада з’явіліся каля ракі Лясной за некалькі кіламетраў ад Берасця. (...) Апошнімі днямі лістапада адбылася бітва, якая, паводле звестак маскоўскіх ваяводаў, скончылася іхнай перамогай”.

Мікола Гайдук пра Бярвіху: „Помнік з ружовага гранітнага каменя-валуна пачаткова, мабыць, быў пастаўлены на стромкім надрэчным пагорку, які тутэйшыя людзі і па сённяшні дзень завуць „могілкі”. Пагорак спакон вякоў лічыўся зямлёй „нічыйнай”. Сяляне, капаючы ямы на бульбу, знаходзілі там чалавечыя косці і лічылі, што гэта астанкі людзей, памерлых у часе нейкага „паморку”. (...) Пасля, па нейкіх невядомых прычынах, яго перацягнулі бліжэй да дарогі, паставілі бокам, устанавілі на ім жалезны крыж. Народ жа спавіў яго легендай. У ёй гаворыцца, што быццам бы некалі праязджала сюдою каралева літоўская (!) стала тут на адпачынак і ў гэты гонар загадала ўкапаць камень і вырэзбіць на ім надпіс”.

Легенда легендай, але незвычайны валун не стаяў на віду ўвесь час, бо ж ён сваім надпісам калоў некаторыя вочы. Пётр Бізюк у сеціве: „Jest w Bierwisze stary kamień z wbitym weń krzyżem, pamiątka jednej z największych tragedii, która nawiedziła te ziemie. Nigdy wcześniej, od czasów jaćwieskich, taka hekatomba nie przetoczyła się nad tymi terenami. Historię głazu z wyrytym w nim napisem wyczytać można w przewodnikach turystycznych. W 1921 roku został on dostrzeżony w pobliskiej rzeczce, wydobyty przez robotników, oczyszczony i ustawiony przy drodze. Wtedy też zapewne wbito w kamień metalowy krzyż. W 1939 roku, gdy Sokólszczyznę zajęli Sowieci, głaz z Bierwichy znowu znalazł się w płynącej poniżej strudze. Ponownie ustawiono go przy drodze po rozpoczęciu wojny niemiecko-sowieckiej, w 1941 roku”.

Згаданай гекатомбай і была вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гадоў. У яе выніку само насельніцтва ВКЛ скарацілася напалову. 22 снежня 1659 года Гародня здалася яшчэ раз, цяпер царскаму ваяводу Івану Хаванскаму. Генадзь Сагановіч: „Далей Хаванскі павярнуў на Падляшша. Уварваўшыся ў Заблудаў, ягонае войска спустошыла гарадок, пасекла людзей, якія былі ў касцёле на набажэнстве, нахапала ўдосталь палонных і ўсялякага дабра. Пасля гэтага маскоўскае войска рушыла на Берасце”.

*(працяг будзе)*

ISSN 0546-1960